Беларускае Выдавецкае Таварыства.



# ЗБОРНІК
# НАША НІВА




19  20

Вільня — 1920 г.
Друкарня Коопэратыўнае Таварыства «ДРУК», Троцкая, 13.

**Зьмест:**



Цана **10** мк.




Пазв. Ваенҥай цэнзурай.




# Ад выдавецтва

У 1906 гаду—яшчэ пад панаваньнем усясільнае расейскае рэакцыі—пачала была выходзіць у Вільні беларуская тыднёвая часопісь «Наша Ніва».

Гуртуючы каля сябе ўсе сьвядомые беларускіе сілы, пад той час вельмі нячысьленые, „Наша Ніва", як ядыная тады часопісь у беларускай мове, сталася тэй кузьняй, дзе пачаў выпрацоўвацца беларускі нацыянальны ідэал. «Наша Ніва» сталася пуцяводнай зоркай для беларускага грамадзянства і дзесяць лет вяла яго шляхам нацыянальнага будаўніцтва — да ідэалу поўнага культурнага, эканамічнага і палітычнага вызваленьня Беларускага Народу.

Цяжкіе былі варункі тагачаснае працы „Нашае Нівы": побач з цяжкім матэрыяльным палажэньнем—бязупынные конфіскацыі, штрафы, судовые працэсы і адміністрацыйные кары гамавалі работу яе. Аднак, работа йшла ўсё ўпярод, ня спыняючыся ні на адну мінуту. Толькі калі ў 1915 гаду расейскі ўрад мабілізаваў рэдактара і пераважную частку супрацаўнікоў, „Наша Ніва" часова прыпынілася, чакаючы павароту больш нармальных варункаў.

Але сяўба яе не прапала дарэмна: кіданые ей шырока зярняты нацыянальнае сьвядомасьці пападалі на добры грунт, усходзілі і ўрэшці далі багаты ўраджай. Яшчэ задоўга да вайны рух беларускі стаўся паметнай сілай у краёвым жыцьці. За час вайны разьвіцьце ў беларускіх народных масах нацыянальнае сьвядомасьці йшло ўсё далей, і калі прабіла часіна вызваленьня паняволеных народаў старое Расеі, дванаццацімільённы Беларускі Народ зразумеў, што і для яго настаў час, і на Усебеларускім Зьездзе ў Менску ў 1917 гаду выявіў сваю волю ў кірунку тварэньня свае незалежнае дзяржавы—свае Беларускае Рэспублікі.

Цяпер, калі перад нашым народам стаіць задача рэалізацыі ідэі дзяржаўнае незалежнасьці, калі творацца запраўды моцные асновы нашае нацыянальнае культуры, калі беларускае інтэлігентнае грамадзянства патрабуе сур'ёзнае культурнае стравы ў роднай мове, патрабуе атказу на нялічаные пытаньні, якіе стаўляе перад

намі жыцьцё,—мы, старые супрацаўнікі «Нашае Нівы», ізноў згуртаваліся і прыступаем да прыпыненае працы. Ня ўсім давялося прыждаць гэтага мамэнту: ня стала за гэты час перарыву самага першага ініцыятара выдавецтва „Нашае Нівы“ і глаўнае апоры яе, Івана Луцкевіча; ня стала вядомай на ўсю Беларусь працаўніцы «Цёткі» (Алёізіі з Пашкевічаў Кейрысовай); ня стала і аднаго з найвялікшых песьняроў Маладое Беларусі, Максіма Багдановіча, і здольнага маладога пісьменьніка Лявона Гмырака, і многа-многа іншых... Але затое нарасьлі новые сілы. І, памінаючы тут пагібшых байцоў за беларускую справу, мы нанова паднімаем стары штандар „Нашае Нівы“, цьвёрда веручы, што з дружнай падмогай нашых новых таварышоў мы здалеем выпаўніць пастаўленые нам жыцьцём новые задачы.

Існаваньне штодзеннай беларускай газэты і некалькіх тыднёвых зьнімае з нас абавязак асьвятляць штадзенные, бятучые справы і дае магчымасьць абмежывацца справамі і пытаньнямі прынцыпіяльнага характару. Мы будзем падыходзіць да разьвязкі гэткіх пытаньняў узіраючыся ў далейшую будучыну, а не ў сягоньняшніе хутка мінаючые і зьменные настраеньні. Дзеля гэтага мы і выбралі форму выдавецтва неперыодычнага і ў гэтым зборніку памяшчаем тые матэрыялы, якіе нам удалося пакуль-што згуртаваць.

Вільня, червень 1920 г.



# Палітычные лозунгі беларускага руху.

Аснову ідэолёгіі кожнага нацыянальна сьвядомага народу становіць жаданьне волі, жаданьне быць гаспадаром на свэей зямлі.

Гэта — аксіома, справядлівасьці якой няма патрэбы даводзіць: яна ясна сама па сабе. Жадае вызваленьня і той народ, каторы ўжо некалі быў вольны ды волю сваю утраціў; жадае і той, што фармаваўся пад чужацкай уладай і жыў усьцяж паднявольным жыцьцём; народ жа, катораму доля дала такое шчасьце, што ён быў і астаўся вольным, лічыць волю сваю найдаражэйшым скарбам і дзеля абароны і захаваньня яе гатоў аддаць другі бяззцэнны скарб чалавечы: жыцьцё сваіх лепшых сыноў.

Чым сільнейша нацыянальная сьвядомасьць паднявольнага народу, чым болей перажыў ён у мінуўшчыне, чым ярчэй і жывей у яго ўспаміны аб гэнай мінуўшчыне,—тым больш выразна і больш конкрэтна выяўляецца ідэал волі, форма яе. Залежна ад палітычнае кон'юнктуры, гэты ідэал выяўляецца то ў найпрасьцейшай форме забаспечаньня нацыянальных правоў, то ў форме самага скромнага і арганічанага самаўпраўленьня, далей—аўтаноміі і фэдэрацыі, а завяршаецца поўным вызваленьнем ад панаваньня чужацкае дзяржавы і будаваньнем свайго незалежнага гаспадарства. У кожнага народу ідэал волі мае сваю гісторыю, перажываючы пэрыёды туманнага шуканьня, крысталізацыі, расцьвету і болей або меней рэзкіх, але заўсёды абаснованых перамен.

Такую гісторыю маець і палітычны ідэал Беларускага Народу, быўшага некалі вольным і незалежным, але пасьля доўгіе вякі пакутаваўшага ў няволі. Праўда, што народ наш быў утраціў натуральных насіцеляў палітычных ідэалаў — сваю інтэлігенцыю; праўда і тое, што ў народных масах, прыгнечаных доўгімі гадамі цяжкое паншчыны, ідэал волі стаўся нечым нявыразным, нярэальным — быццам толькі прачуваньнем вызваленьня. Але разам з тым, як прабіла гадзіна нацыянальнага адраджэньня беларусаў, як пачала нарастаць новая народная інтэлігенцыя, сьвядомая сваей нацыянальнай прыналежнасьці,—з густой імглы стаў усё ясьней і ясьней вырысоўвацца палітычны ідэал, каторы, прайшоўшы праз усе ступені развіцьця, прыняў аканчацельную форму дзяржаўнае незалежнасьці. А ў тэй яго эволюцыі выявіўся гістарычны прымус, аснованы—з аднаго боку— —на натуральным жаданьні волі і незалежнасьці, з другога—на палітычных варунках, вытвораных у Беларусі у зьвязку з расейскай рэвалюцыяй, развалам расейскага гаспадарства і завяршэньнем вайны гібельнай для Беларусі Берасьцейскай міравой умовай.

Першые арганізаваные выступленьні беларускіх адраджэнцаў адносяцца да пачатку гэтага сталецьця. Праўда, яшчэ і ў канцы мінулага сталецьця былі спробы пачаць работу дзеля нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, але спробы гэные апрача прызываў да шанаваньня роднае мовы больш конкрэтных лозунгаў не пакінулі, дый ім ня было суджана разьвінуцца у шырэйшы народны рух. З гэтае прычыны мы і пачнем наш агляд эволюцыі беларускіх палітычных лозунгаў ад тых праяваў руху, якіе мелі месца у пачатку XX сталецьця.

Першае хронолёгічна палітычнае выступленьне беларускіх адраджэнцаў становіць палітычная праграма „беларускае рэвалюцыйнае грамады“ 1903 г. — першае партые, якая паставіла сваей мэтай барацьбу за волю Бацькаўшчыны.

Пад той час беларускі нацыянальны рух толькі-толькі пачаў будзіцца. Актыўных сіл было мала. Толькі лічаные адзінкі спаміж беларускае інтэлігенцыі адгукнуліся на прызывы першых сяўцоў беларускае ідэі. Народ у Беларусі, як і па ўсей тагачаснай Расейскай дзяржаве, спаў яшчэ цяжкім сном, і толькі ад часу да часу даляталі да нас водгукі мужыцкіх бунтаў і аграрных разрухаў з Маскоў-

шчыны, якіе станавілі запаведзь магутнага выбуху гневу народнага. І ідэйные беларускіе павадыры, так сама, як павадыры украінцаў, літвіноў, латышоў, каўкаскіх народаў і пераважнае часьці польскага грамадзянства, верылі, што толькі агульна-расейская рэвалюцыя, калі разам з маскалямі паўстануць проці царскага ураду ўсе паняволеные народы Расейскае імпэрыі, здолее даць волю і самаму забітаму, бязпраўнаму, цёмнаму і неарганізованаму беларускаму народу. Усе пачувалі патрэбу ісьці разам. А вера ў магутнасьць расейскага дзяржаўнага арганізму была гэткая моцная, што ніхто й ня думаў, каб рэвалюцыя магла-бы таго волата разваліць: жаданую волю ўсе народы, а ў тым ліку і беларусы, бачылі ў забаспечаньні законамі Расеі іх нацыянальных правоў, ды толькі найбольш радыкальные групы выступалі з дамаганьнямі аўтаноміі — з мясцовымі сэймамі дзеля ўладжаваньня культурных і эканамічных спраў краю. Такое становішча занімала і „Беларуская Рэвалюцыйная Грамада“ ў першым пачатку свайго існаваньня.

Ня гледзячы на гэткіе вельмі скромные дамаганьні паняволеных Расеяй народаў, маскоўскае грамадзянства ў сваей пераважаваючай большасьці сустракала іх вельмі няпрыхільна, калі не варожа. Толькі больш левые элемэнты, разумеючы, што пры тагачасным цэнтралізьме і панаваньні маскоўцаў над усімі іншымі народамі Расеі ідэя палітычнае рэвалюцыі сустрэне вельмі многа сур'ёзных прашкод, уключалі ў праграмы свае „аўтаномію акраін“, стаўляючы, аднак, аўтаномію Беларусі і Украіны пад вялікім знакам запытаньня. З другога боку ўсё больш узрастаўшая нацыянальная сьвядомасьць „інародцаў“ не давала палітычным дзеячом сваім абмежываць народные дамаганьні нейкім куртатым самаўпраўленьнем у форме краёвай аўтаноміі. Бачучы, што маскоўцы і на аўтаномію скоса паглядаюць, народы Расеі пачалі прыходзіць да пераконаньня, што невясёлая доля іх жджэ, калі аб іх будзе пастанаўляць агульна-расейскі („ўсерасейскі“) парлямэнт, калі ён будзе вызначаць межы іх самаўпраўленьня. А разам з тым, як чэзла вера ў справядлівасьць маскоўскага народу, паднявольные „інародцы“ пачалі аглядацца адзін на аднаго і падумываць аб тым: ці не ўдалося бы ім сваімі сіламі ўзяць сабе такую волю, якую самі хочуць? Сілы „інародцаў“ расьлі ўсё больш і больш. Рэвалюцыйны рух абхопліваў найбольш так-званые „акраіны“. І вось тые „акраіны“ стары лозунг краёвага самаўпраўленьня (аўтаноміі) замяняюць другім лозунгам: перастройкі Расейскае дзяржавы на фэдэрацыйных асновах.

Усё гэта перажываюць і беларусы. І ў іх з кожным годам нарастаюць нацыянальна-сьвядомые сілы, і яны пачынаюць ускладаць свае надзеі не на дабравольные уступкі маскоўцаў, а на дружны націск аб'яднаных сіл «інародцаў». Хаця сіла Расейскае дзяржаўнае арганізацыі прымушае яшчэ ўсе народы Расеі бачыць разьвязку пытаньня аб іх будучыне ў межах тэй-жа Расеі,—беларусы адны з першых уводзяць у сваю палітычную праграму прынцып дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі, сфэдэрованай з суседзямі, — значыць, не канечна з Маскоўшчынай (гл. праграму Беларускае Соцыялістычнае, раней

«Рэвалюцыйнае», Грамады, прынятую ў 1905 г.). Ведама, ў гэтым трэба бачыць і адбіцьце агульнага палітычнага палажэньня Расейскае імпэрыі, якая пасьля няўдачнае японскае вайны перажывала першую сваю рэвалюцыю 1905 году.

Шуканьне апоры ў суседзяў—без Маскоўшчыны—характэрызуе ўсю палітычную работу беларусаў ад 1905 году. На першым месцы тут стаяла Літва, з каторай Беларусь некалі станавіла адну дзяржаву і з каторай да апошніх дзён становіць адзін суцэльны гаспадарскі арганізм, ахрышчаны царскім урадам імем „Сѣверо-Западный Край“. Далей — Украіна, беларуская граніца з каторай становіць траціну ўсіх этнаграфічна-дзяржаўных меж Беларусі. Урэшці— Латвія, порты каторае Лібава і Рыга здавён-даўна абслужывалі і абслужываюць Беларусь, злучаную з імі сыстэмай чыгунак. Менш мела Беларусь супольных інтарэсаў з Польшчай, дый ад зьбліжэньня з ёю беларусы бачылі для сябе такуюж небаспеку, як і ад Маскоўшчыны: небаспеку дэнацыяналізацыі. Яшчэ ў пачатку японскае вайны бачым супольныя проціваенныя выступленьні соцыялістычных партый Беларусі, Літвы і Латвіі (праклямацыі ў мясцовых мовах гэтых краёў з подпісамі ўсіх мясцовых соцыялістычных партый—у 1904 г.). Адначасна з беларускага боку (на зьездах краёвае інтэлігенцыі ў Вільні ў 1904 г., на міжпартыйных конфэрэнцыях там жа ў 1905-6 г. г.) выстаўляецца ідэя адбудовы колішняга Вялікага Князьства Літоўскага, як беларуска-літоўскай фэдэрацыі. Урэшці, ўжо пасьля упадку рэвалюцыі, беларускіе палітычные дзеячы прапагуюць ідэю трайнога беларуска - літоўска - украінскага саюзу, высьняючы яе ў прэсе («Наша Ніва») і пасьвячаючы асаблівую увагу справе культурнага зьбліжэньня братніх народаў: беларускага і украінскага.

Увесь пэрыод ад упадку рэвалюцыі 1905 году ажно да пачатку вайны 1914 г.—пэрыод найцяжэйшае рэакцыі—беларуская палітычная думка далей разьвівае выпрацаваны „Беларускай Соцыялістычнай Грамадай“ прынцып фэдэрацыі вольнае Беларусі з вольнымі суседзямі. Але, апіраючыся на такіх суседзяў, як Літва, Украіна і Латвія, беларускіе палітыкі не разрываюць зьвязку з Расеяй, усё яшчэ астаюцца ў межах супольнага дзяржаўнага арганізму—Расейскага гаспадарства, прымаюць учасьце ў арганізацыях і зьездах аўтанамістаў-фэдэралістаў і актыўна працуюць над тым, каб і маскоўскае грамадзянства прызнала прынцып фэдэрацыі і баролася за яго.

Пачатак сусьветнае вайны вызваў ражнародные настраеньні у беларускім грамадзянстве. Адны верылі, што ў гэты нязвычайна сур'ёзны для Расеі мамэнт аб'яднаньне ўсіх паднявольных народаў дзеля абароны Расейскае дзяржавы будзе залогам перастройкі гэнае дзяржавы „пасьля пабеды“ на фэдэрацыйных асновах. Другіе, наадварот, даводзілі, што, мяркуючы паводле гістарычных прыкладаў, расейскі ўрад, дайшоўшы пабеды, толькі узмацуецца і яшчэ горш будзе ўціскаць „інародцаў“, і жадалі разгрому Расеі, бо толькі ваенные няўдачы здолеюць падняць народные массы супроць царскае ўлады. Але як адны, так і другіе на практыцы занімалі пераважна

нэўтральнае становішча, ня шкодзючы, але і не памагаючы лішне Расейскай дзяржаве. Дый пры тых варунках, якіе пад той час былі устаноўлены урадам, ніхто ня мог адкрыта высказаваць сваіх паглядаў, бо ваенная цэнзура не дапускала ў прэсе ніводнага вольнага слова. Ад пасыўнасьці да актыўнасьці перайшлі беларусы толькі пасьля выхаду расейскіх войск у восені 1915 году з Заходняе Беларусі—і то толькі ў гэтай часьці Беларусі.

Дзеля ўразуменьня таго, што рабілася ў межах нямецкае окупацыі 1915 году —значыць, у Заходняй Беларусі (Віленшчыне і Горадзеншчыне), гожа будзе нарысаваць абраз палажэньня, ў якім была тады Усходняя Беларусь пад Масквой. Вось, тамака ажно да марцовай рэвалюціі 1917 г. ў поўнай меры трываў той самы ваенна-паліцэйскі рэжым, які быў устаноўлены царскім урадам у пачатку вайны. Асабліва цяжкі быў гэты рэжым для Беларусі, праз якую праходзіў ваенны фронт. Аб якой-колечы грамадзкай працы — апрача помачы «бежанцам» — не магло быць і гутаркі. На ўсім абшары паднявольнае Беларусі ня было ніводнае беларускае часопісі, ня выйшла ні адна кніжка ў беларускай мове. Толькі ў Пецярбурзі пачалі ў канцы 1916 году друкавацца два тыднёвікі «Swietacz» і «Дзянніца», але і яны ня мелі магчымасьці выказаваць думкі і настраеньні народу: вострасьць цэнзуры даходзіла такое меры, што ў газэтах нельга было ўжываць слова «Беларусь», і яго прымушалі замяняць славамі «наш край» і т. п. І калі беларусь спад нямецкае окупацыі зварочаваліся да сваіх зафрантовых братоў аб падмогу, яны ў адказ атрымлівалі весткі аб страшэнным уціску беларускага народу царскім урадам, аб прост безпрасьветным палажэньні Усходняе Беларусі.

А пад нямецкай окупацыяй—ня гледзячы на страшэнные эканамічные цяжары — палітычнае палажэньне беларусаў неўспадзеўкі значна палепшала. Хаця сперша немцы абаперліся на тутэйшых палякох, хаця начальнік окупацыйнага атраду, заняўшага Вільню, граф Пфайль, увайшоўшы да места расклеіў на вуліцах адозву, называючы адвечную беларуска-літоўскую сталіцу «пэрлай кароны польскай», — хутка выявілася, што гэта была толькі палітычная ігра. Вельмі хутка немцы такую-ж ігру пачалі і з літвінамі, а ў пачатку 1916 году фэльдмаршалак Гіндэнбург у сваім загадзе аб школах даў прыказ, каб беларуская мова карысталася ўсімі правамі іншых краёвых моваў. Беларускіе школы, якіе пачалі засновывацца яшчэ ў канцы 1915 году (ў Вільні), шыбка пашыраліся па ўсім краю. У лютым 1916 году пачала выходзіць у Вільні часопісь «Гоман». «Беларускі Камітэт дзеля помачы пацярпеўшым ад вайны» атрымаў магчымасьць працаваць шырэй, і окупанты лічыліся з ім, як з нацыянальным прадстаўніцтвам беларусаў. Заснаваўся «Беларускі Клюб» у Вільні, а сьледам цэлы сьцяг устаноў, як «Навуковае Таварыства», Т-ва «Золак», «Беларускі Вучыцельскі Саюз» (праўда, хутка закрыты окупантамі), «Цантральны Саюз Беларускіх Нацыянальных Грамадзкіх Арганізацый» і інш. І хаця спаміж актыўных беларускіх дзеячоў у межах нямецкае окупацыі асталося ўсяго 3—4

душы, — усё-ж яны здалёлі збудзіць і прыцягнуць да нацыянальнае працы багата новых сіл, цьвёрда бароўшыхся за беларускую ідэю.

Як бачым, контраст паміж пелажэньнем у «паднямецкай» і ў «падмаскоўскай» Беларусі — дужа рэзкі, дый зусім не на карысьць царскае Расеі... Дык нічога дзіўнага, што беларускіе нацыянальные дзеячы хутка перасталі ўзірацца на Маскву і — разам з дэмакратычнымі элемэнтамі літоўскімі, жыдоўскімі і польскімі — прыступілі да ладжаньня жыцьця краю на зусім новых асновах: яны паднялі штандар поўнае дзяржаўнае незалежнасьці Беларуска-Літоўскага краю. А заява нямецкага канцлера Бэтман-Гольвэга, што «вызволеные ад Расеі землі ня вернуцца назад пад маскоўскае ярмо», узмацоўвала веру кіраўнікоў беларускае палітыкі ў магчымасьць рэалізацыі іх шырокіх плянаў.

У канцы 1915 г. з ініцыятывы беларусаў завязалася «Конфэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага» дзеля правядзеньня ў жыцьцё сказанага вышэй кліча, і да гэтай арганізацыі увайшлі прадстаўнікі ўсіх чатырох краёвых нацый. Быў выпушчан «Унівэрсал» у чатырох мовах: па беларуску, па літоўску, па польску і па жыдоўску, які падаем тут даслоўна:

# УНІВЭРСАЛ

## Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго.

Лета 1915 мес. Грудня 19 дня члены Літоускіх, Беларускіх, Польскіх і Жыдоускіх организацій прыступілі да Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго, дабіваючыся супольнымі сіламі, абы Літоускіе і Беларускіе землі, каторые здауна прыналежалі да Вялікаго Князьства Літоускаго, а цяпер апанаваны Нямецкімі войскі, ставілі пры новых варунках гісторычных нераздзельнае цела на фундамэнці незалежнасьці Літвы і Беларусі, як суцэльнае дзержавы, засьцерагаючы усім націям у ее межах усе правы.

Дзеля гэтаго конфэдэраты звертаюцца да усіх станау, да усіх істнуючых организацій і да усіх грамадзян Краю, клічучы, абы уважаючы на важнасць вялікаго гісторычнаго момэнту, забыушыся крыуд узаемных, свар і нэдавер'я, маючы на мэці адно карысць супольнае Бацькаушчыны, прылучыліся да Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго.

**Рада Тымчасовая**
**Конфэдэрацііі Вялікаго Князьства Літоускаго.**

«Унівэрсал» выйшаў у сьнежні 1915 г., а ў лютым 1916 г. зьявілася адозва з загалоўкам «Грамадзяне!» (так сама ў чатырох мовах), каторая падробна разьвівала палітычны лозунг «Конфэдэрацыі». Адозва гэтак высказавае жаданьні «Конфэдэрацыі»:

1) «абы землі літоўска-беларускіе станавілі пры новым укладзе незалежную гасударственую адзінку з сэймам у Вільні, выбіраным на аснове агульных, роўных, простых і тайных выбараў, з забасчечаньнем поўных правоў усім нацыям, каторые жывуць на названых землях;

«2) абы ў межах названых зямель былі *прынамсі* землі, занятые цяпер нямецкімі войскі, значыцца: Ковенская і Віленская губэрні, беларуская і літоўская часьці Гродзенскай і Сувальскай губэрній, літоўскіе часьці Курляндзкай губэрні і часьці губэрні Мінскай, каторая зьвязана з віленскім цэнтрам, — і абы ўсе гэтые землі станавілі адно непадзельнае цэлае;

» 3) абы форма ўнутранага ладу і аснаўная констытуцыя будучай вольнай літоўска-беларускай гасударственай адзінкі ня была накінута нам зверху, але была устаноўлена і зацьверджана устаноўчым сэймам у Вільні, выбраным агульнай, роўнай, простай і закрытай падачай галасоў».

Мы падчыркнулі слова «прынамсі», бо яно дужа характэрна для паглядаў і настраеньняў таго часу як у беларусаў, так і у літвіноў. Між беларусамі і літвінамі, якіе гэтак крэпка зьвязаны гістарычным жыцьцём, ужо з часаў першае расейскае рэвалюцыі 1905 году ішла спорка аб тое, ці гэтые два народы маюць адбудоўваць сваю колішнюю супольную дзяржаўнасьць, ці кожын мае тварыць асобна нешта новае. Літвіны сур'ёзна баяліся, што ў супольнай дзяржаве іх заліець беларуская большасьць, і думалі аб будове нацыянальнай дзяржавы. На бяду, Вільня, адвечная сталіца колішняе Беларуска-Літоўскае дзяржавы, стаіць на этнографічна-беларускай тэрыторыі: літвіны жывуць найбліжэй у 20 — 60 вярстох на заход і поўнач ад Вільні. З гэтай прычыны «літоўскі нацыянальны сэйм», які адбыўся ў Вільні ў 1905 гаду, выставіў быў дамаганьне, каб да складу «этнографічнай» Літвы належалі-бы, апрача Ковенскай і Сувальскай губ., такжа і беларуская Віленшчына і Горадзеншчына. — Вось, на грунці «Конфэдэрацыі» гэная спорка была ўладжана: літвіны прынцыпіальна прысталі на адбудову Вялікага Князьства Літоўскага — разам з усей Беларусьсю, але як большая частка апошняе знаходзілася тады яшчэ пад Масквой, дык у адозьве і гаворыцца прынамсі аб тых землях, якіе ўжо былі пад той час фактычна адарваны ад Расеі. Гэтым тлумачыцца і актыўная праца на грунці «Конфэдэрацыі» беларускіх дзеячоў, якіе згаджаліся пайсьці пад лозунгам адбудовы гістарычнае Літвы, — хоць трэба адзначыць, што тут іграла сур'ёзную роль і фактычная немагчымасьць для малой жмені сьвядомых беларусаў у межах окупацыі думаць аб сваей асобнай дзяржаўнай рабоці для і за ўсю Беларусь.

Усё ж віленскіе беларускіе дзеячы рабілі, што здалелі, і за ўсю Беларусь. Так, 28 красавіка 1916 гаду Беларускі Народны Камітэт у Вільні паслаў на Конфэрэнцыю Народаў Расеі ў Штокгольме сваю палітычную дэклярацыю, ў якой вылічаў усе дазнаные беларусамі ад расейскага ўраду за 120 гадоў крыўды і ваяўляў прад ўсім сьветам, што „Беларускі Народ жджэ вызваленьня спад расей-

скай няволі“. А ў чэрвені таго-ж году дэлегаты Б. Н. К. на III-яй Конфэрэнцыі Народаў у Лёзанне выступілі з мэморыялам, у каторым абрысавалі палажэньне Беларускага Народу і каторы закончылі гэтак: «Цяпер, дзякуючы III-яй Конфэрэнцыі Народаў, мы маем магчымасьць першы раз за 120 гадоў заявіць цывілізованаму сьвету аб поўнай нашай бяспраўнасьці, ад якой мы пакутавалі ў Расейскай дзяржаве. Мы просім у цывілізованых народаў спогаду нам і падтрыманьня, каб прымусіць да пашаны нашых нацыянальных і культурных правоў. Мы можам урэшці спадзявацца, што, які-б ня быў канец вайны, народы Эўропы памогуць нам забаспечыць Беларусі ўсе палітычные і культурные правы, якіе дадуць нашаму народу магчымасьць вольна разьвіваць свае інтэлектуальные, моральные і эканамічные сілы, і што гэтые правы дадуць нам магчымасьць стацца гаспадарамі на нашай уласнай зямлі».

У канцы 1916 году законспірованые беларускі і літоўскі нацыянальные камітэты ў Вільні пачалі супольную працу дзеля высьненьня і устанаўленьня асноў супольнага дзяржаўнага жыцьця Беларусі і Літвы. Літвіны выстаўлялі праект такога разграніченьня нацыянальных адміністрацыйных адзінак, каб Вільня належала адміністрацыйна да літоўскай часьці, астаючыся супольнай сталіцай дзяржавы і забаспечаваючы тут беларусам роўные з літвінамі правы. Аднак, у пачатку 1917 году літвіны рэзка зьмянілі сваю палітыку: ім зроблены былі конкрэтные прапазыцыі з Бэрліну, у каторые ня ўходзіла беларускае пытаньне, бо немцы не хацелі на гэтым грунці йсьці на конфлікт з усё яшчэ пад той час магутнай Расеяй. Літвіны на гэтые прапазыцыі пайшлі і парвалі ўсялякі зьвязок з Беларусамі, трымаючыся адно Нямеччыны. Яны таксама адсэпараваліся і ад усіх іншых нацыянальнасьцяў краю: палякоў, жыдоў. — Рэзультатам-жа літоўска-нямецкае угоды было утварэньне літоўскае дзяржаўнае рады („Тарыбы“) ў Вільні, як сувэрэннага органу Літвы, разумеючы пад Літвой такжа і беларускіе землі нямецкай окупацыі 1905 году. Беларусы, каторым літвіны сулілі адно або два месцы ў «Тарыбе», адкінулі падобные прапазыцыі і занялі яўна опозыцыйнае да „пануючай“ нацыі становішча. Такоеж становішча зкнялі і палякі і жыды.

Пасьля дзяржаўнага пэраваротy ў Расеі ў марцы 1917 году тамтэйшые беларусы выявілі вялікую энэргію і пачалі шырокую работу—як культурна-нацыянальную, так і палітычную. Але нямецкіе окупацыйные ўласьці так наглуха зачынілі ваенны кордон, што толькі ў жніўні 1917 году дайшлі ў Вільню першые і даволі туманные весткі аб гэтым. І вось на засяданьні сваім 19 жніўня гэтага-ж году Беларускі Народны Камітэт у Вільні аднагалосна прыняў і пастанавіў правадзіць у жыцьцё гэткую плятформу: „1) Незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі і Літвы. 2) Унутранае разграніченьне аўтаномных Беларускай і Літоўскай зямель паводлуг матчынай мовы жыхараў. 3) Роўные правы для ўсіх нацыяльнасьцей Краю. 4) Прызнаньне ўрадовых правоў за ўсемі мясцовымі мовамі; школы—ў мат-

чынай мове». У сваіх матывах Камітэт прызнаў патрэбным ставіць разьвязку будучыны Краю незалежна ад лініі фронту.

Бадай адначасна ў Вільні утварылася арганізацыя пад назовам „Сувязь Незалежнасьці і Непадзельнасьці Беларусі", каторая радыкальна выступіла проці супольнай працы з літвінамі на грунце будаваньня беларуска-літоўскае дзяржаўнасьці, стаўляючы справу адносін да Літвы нараўне з справай адносін да Польшчы і Украіны.

Ня гледзячы на прашкоды са стараны літвіноў і немцаў, беларусам у Вільні ўдалося склікаць конфэрэнцыю (25, 26 і 27 студзеня 1918 г.), каторая прыняла аднагалосна компромісовую рэзалюцыю, на якой зыйшліся прадстаўнікі ўсіх, ніводнага не выключаючы, палітычных кірункаў і груп. Вось гэта рэзалюцыя:

„Цьвёрда веручы, што толькі поўная дзяржаўная незалежнасьць можэ забаспечыць Беларускаму народу магчымасьць усестароннага эканамічнага і культурнага разьвіцьця і прынімаючы пад увагу:

1) што Беларуска-Літоўскіе землі, незалежне ад лініі фронту, становяць суцэльны праўна-дзяржаўны і экономічна-гаспадарчы комплекс, утвораны вякамі як з прычыны супольнай дзяржаўнасьці, ў постаці незалежнага В. Кн.-Літоўскага, так і з прычыны географічных варункаў, супольнай сыстэмы дарог — чыгунак, рэк, шоссэ і т. п. і супольнай таргова-прамышленай арганізацыі;

2) што агульные экономічные варункі жыцьця краю вымагаюць свабоднага доступу да мора, сыстэма-ж дарог і рэк зьвязывае яго асабліва з портамі Балтыцкага мора праз Курляндзію;

3) што пры сучасных варунках жыцьця народаў толькі адбудова утрачанай дзяржаўнасьці злучаных у адно Беларуска-Літоўскіх зямель можа забазпечыць нашаму краю і яго народам магчымасьць свабоднага і ўсестароннага разьвіцьця;

4) што ўсе окупованые Беларуска-Літоўскіе землі становяць аснову колішняга незалежнага В. Кн. Літоўскага, каторае ужо пры сваіх нарадзінах складалося з двух народаў: літоўскага і беларускага,

сабраўшыеся на конфэрэнцыю ў Вільні 25.I. 1918 прадстаўнікі беларусаў з окупованай часьці краю, апіраючыся на апавешчаным дэмакрацыяй і прызнаным ужо урадамі прынцыпе самаазначаньня нацыянальнасьцей, высказаваюць дамаганьне, каб Беларуска-Літоўскіе землі окупацыі станавілі незалежную суворэнную дэмакратычную дзяржаву, зложаную з дзьвёх аснаўных аўтаномных нацыянальных тэрыторый: Беларускай і Літоўскай, у найцясьнейшай еднасьці з незалежнай Курляндзіей з тым, каб правядзеньне ў жыцьцё гэтых дамаганьняў належала да скліканага ў Вільні на аснове агульнай, простай, тайнай, безпасрэднай і пропорцыянальнай падачы галасоў паводлуг нацыянальных курый Устаноўчага Сэйму Беларусі і Літвы.

„Конфэрэнцыя горача жадае, каб — у імя права на непадзельнасьць беларускага народу, разрэзанага лініяй фронту, і ў імя еднасьці ўсіх Беларуска-Літоўскіх зямель — да памянёнай гасударственай арганізацыі, заўсёды станавіўшай ядро В. Кн. Літоўскага, была далучана і рэшта Беларускіх зямель, як часьць да цэлага. У мысль гэтага, Конфэрэнцыя звяртаецца да зарубежных беларусаў з

гарачым прызывам супольне дабівацца спаўненьня памянёных дамаганьняў.

„Конфэрэнцыя заяўляе, што яна не прызнае за голас Літоўска-Беларускага Краю пастаноў Літоўскай Рады і не прымае на сябе выданых ею палітычных абязацельств.“*)

Конфэрэнцыя ў Вільні была апошнім самабытным актам беларусаў „старой окупацыі“, да каторых нямецкіе ўласьці не дапускалі ніводнае весткі з зафронтовай Беларусі. А тымчасам там ад марцовай рэвалюцыі 1917 году нацыянальны рух разьліўся шырокай хваляй і, перамагаючы ўсялякіе прашкоды, ваюючы як з маскоўскім цэнтралізмам, так і з цямнотай і несьвядомасьцю сваіх жа народных мас, дайшоў магутнае сілы і завяршыўся тым, чым зусім натуральна павінен быў завяршыцца: прыняцьцем лозунга беларускае дзяржаўнасьці.

Дамаганьні першага беларускага нацыянальнага зьезду ў Менску, які адбыўся зара пасьля марцовае рэвалюцыі 1917 году, былі йшчэ, праўда, вельмі скромные. Пасланая да Часовага Ураду ў Пецярбург дэлегацыя дамагалася адно сазыву краёвага органу упраўленьня з дарадчымі функцыямі дзеля мясцовых спраў, дамагалася ўвядзеньня выкладу беларускае мовы ў-ва ўсе школы краю і адкрыцьця беларускіх школ і т. п. Але і гэтые скромные дамаганьні ня сустрэлі прыхільнасьці ўзяўшых у свае рукі ўласьць расейскіх дэмакратаў. Як піша ў сваей кніжцы „Беларусь“ А. Цьвікевіч, адзін з чынных учасьнікаў беларускага руху таго часу, „даклад дэлегатаў быў выслуханы кісла і пакінут без рэзультатаў. Усе сьвядомые беларускіе сілы, якіе пасьля доўгіх мук і ўціску з этнузьязмам падняліся за дарагую для іх справу будаваньня роднага краю, пасьля гэткага прыёму з гораччу зразумелі, што права на палітычнае самаупраўленьне, як і права на нацыянальную культуру, не даецца, а яго трэба браць. Далейшые зносіны з Часовым Расейскім Урадам А. Керэнскага (а пасьля і з бальшавіцкай Радай Народных Камісараў) аканчацельна пераканалі ўсіх, што калі раней беларускаму адраджэньню даводзілася мецьдзела з расейскім самадзяржавіем, дык цяпер прыходзіцца мець дзела з вялікарускім вялікадзяржавіем, якое аказалася шмат сільнейшым, чымся можна было спадзявацца, і якім аказаліся пранікнуты ўсе, як ёсьць, расейскіе палітыкі, не выключаючы нават найбольш левых. Беларуская палітычная думка пераканалася, што справядлівая разьвязка нацыянальнае проблемы ў Расеі сустракаецца з варожымі, хоць і пільна ўкрыванымі, адносінамі ўсіх клясаў вялікарускага грамадзянства“. — І вось, на гэтым грунце вытварылася у беларускіх дзеячоў вера, што праўдзівую волю Беларусь здабудзе толькі тады, калі за палітычнымі лозунгамі будзе стаяць маса—арганізованы народ. Пачалася шырокая арганізацыйная работа. Па ўсей Беларусі і на ўсім ваенным фронце адбываліся вялізарные зьезды, якіе пакідалі па сабе выканаўчые органы—

*) Апублікаваньне гэтай рэзалюцыі нямецкай уладай было заборонена.

Рады, і ўсюды ў вадзін голас дамагаліся асобнага дзяржаўнага устройства Беларусі ўсё яшчэ ў агульна-расейскай фэдэрацыі. Завяршыў гэту работу Усебеларускі Зьезд у Менску ў сьнежні 1917 году, каторы меў запраўдны характар Нацыянальнага Конгрэсу і апавесьціў утварэньне Беларускае Народнае Рэспублікі. Была утворана Рада Рэспублікі, як часовы правадаўчы орган, і Рада Народных Міністраў, як выканаўчы орган. Але і Усебеларускі Зьезд не давёў дзяржаўнае справы да канца: ён затрымаўся на фэдэрацыі з Расеяй. І хоць між павадырамі беларускага руху ўжо тады ідэя незалежнасьці Беларусі мела даволі прыхільнікаў, — аднак, яна была йшчэ мала спопулярызована ў шырокіх народных масах, якіе псыхолёгічна не маглі зразу вызваліцца ад уроку расейскае дзяржаўнасьці, тады йшчэ ня ўтраціўшай свае сілы: на Беларускай зямлі стаяла расейская армія, з каторай бароцца беларусам было-бы не пад сілу, а ведама, што апавешчаньне аддзяленьня ад Расеі выклікала бы аружнае выступленьне маскоўцаў, разагнаўшых штыхамі Усебеларускі Зьезд нават за фэдэрацыю!

Хутка пасьля разгону Усебеларускага Зьезду здарыліся выпадкі, каторые зусім зьмянілі палажэньне ў Беларусі. Менск і вялізарная часьць Усходняе Беларусі былі окупованы немцамі. Па берасьцейскаму міру Савецкая Расея, разглядаючы Беларусь не як асобны край, а як „рядъ губерній Сѣверо-Западной Области", падзялілася Беларускай зямлёй з немцамі, аддаўшы ім да дыспазыцыі Віленшчыну і Горадзеншчыну. І на грунці гэтых двох фактаў аканчацельна збанкрутавала старая палітычная концэпцыя ўсерасейскага фэдэралізму.

24 і 25 марца 1918 году ў Менску адбыліся гістарычные засяданьні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. Гістарычные — бо на іх першы раз зьявіліся дэлегаты Заходняе Беларусі, якую берасьцейскі мір маніўся назаўсёды адарваць ад рэшты Бацькаўшчыны. Дэлегаты Беларускае Рады ў Вільні выясьнілі утварыўшаеся палажэньне, далі справаздачу з усяе палітычнае работы ў Заходняй Беларусі ад пачатку окупацыі 1915 году, высказалі гарачае жаданьне заходніх беларусаў аб'яднацца з усім беларускім народам. І вось, пратэстуючы проці ўчыненага ў Бярэсьці над беларускім народам гвалту, пратэстуючы проці права маскоўскага ўраду раздзіраць жывое цела гэтага народу на кускі і запрадаваць яго чужынцам, быццам безгалосую жывёлу,—Рада Рэспублікі ўчыніла гістарычны крок, які на вечные часы будзе залатымі літэрамі запісаны ў гісторыі Беларусі. Пасьля дванаццацігадзінных дэбатаў пры нязвычайным энтузьязьме ўсіх радных беларусаў, была прынята рэзалюцыя: „Рада Беларускае Народнае Рэспублікі аб'яуляе Беларускую Народную Рэспубліку Незалежнай і выдае аб гэтым устаўную грамату". А 25 марца выпушчана была гэткая грамата:

„Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо Расійскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь: ня пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі беларускіе. Цяпер мы, Рада Беларускай

Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскіе цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай. Самі народы Беларусі, ў асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

„На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старые дзяржаўные зьвязі, якіе далі магчымасьць чужому ураду падпісаць і за Беларусь трактат у Бярэсьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсьці ў адносіны з зацікаўленымі старонамі, прапануючы ім пераглядзіць тую часьціну Берасьцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую умову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

„Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічэбную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілёўшчыну, беларускіе часьці Меншчыны, Горадзеншчыны, Віленшчыны, Вітэбшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежные часьці суседніх губэрняў, заселеные беларусамі.

„Беларуская Народная Рэспубліка падцьвярджае ўсе тые правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якіе абвешчаны Устаўной Граматай ад 9-га сакавіка 1918 г.

„Абвяшчаючы аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што любячые волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры зьдзейсьніць яго палітычна-дзяржаўные ідэалы“.

Акт 25 марца 1918 году—гэта найбольш яркае і поўнае выяўленьне беларускае палітычнае мысьлі, якая за пятнаццаць гадоў перажыла ўсе этапы разьвіцьця. Гэта — апошняе слова беларускае ідэолёгіі, *) штандар, пад якім ідзе беларускі народ да заваяваньня сабе праўдзівай волі. Далейшая палітычная работа беларусаў — гэта ўжо работа над рэалізацыяй незалежніцкага ідэалу. Ці гэты ідэал зрэалізуецца і ў якой меры, ці Беларусь будзе станавіць зусім незалежную дзяржаўную адзінку, ці зьвяжацца фэдэрацыйным саюзам

*) Хронолёгічна апошнім было пазьнейшае апавешчаньне бальшавікамі—1 студзеня 1919 году—незалежнай соцыялістычнай Савецкай Беларускай Рэспублікі ў фэдэрацыі з Расейскай Сав. Фэд. Соц. Рэспублікай і утварэньне Беларускага Савецкага Ураду. Але гэты акт у істоце сваей не дайшоў так далёка, як акт 25 марца 1918 году. Дый Савецкая Беларусь існавала дужа нядоўга: яе жыцьцё скончылася тым, што ад яе адрэзалі і аддалі Маскве ўсю Усходнюю Беларусь — Магілеўшчыну, Вітэбшчыну і беларускіе часьці Смаленшчыны і Чарнігаўшчыны, а Заходнюю — Меншчыну, Віленшчыну і Горадзеншчыну,—аб'явілі злучанай з Літвой у так-званую Літоўска-Беларускую Савецкую Соцыялістычную Рэспубліку (Літ - Бел). Як вядома, і існаваньне апошняе было вельмі кароткае і скончылася з прыходам польскае окупацыі.

з сваімі суседзямі і з каторымі, ці ў сваей палітычнай орыентацыі пойдзе на Усход ці Заход, на Балтыцкае ці Чорнае мора,—гэта пытаньні, якіе разьвязаць можа толькі само жыцьцё залежна ад унутранай сілы беларускага народу і агульнае палітычнае кон'юнктуры на Усходзі Эўропы.

**Ант. Новіна.**

———oo———

# Увагі аб фінансова-эканамічнай адбудове Беларусі.

Кожнаму ясна, што дзеля фінансова-эканамічнае адбудовы краю нашага нам ніяк нельга абыйсьціся без заграні́чнае помачы: наша Бацькаўшчына гэтак зруйнавана, яе ўласная вытворчасьць гэтак ладупала, што дзеля наладжаньня як сельскае гаспадаркі, так і фабрычнае прамысловасьці трэба ўвесь струмант, усе машыны даставаць з заграніцы. А каб-жа дастаць усё патрэбнае, трэба мець за што купляць, або даць на замену сырые матэрыялы. Пры дужа нізкай цане ўсіх валют, якіе маюць ход у нашым краю, пры разстроеным транспорці і настаячы струманту дзеля даставы заграніцу нашае сырызны ясна так сама, што нам трэба раздабываць і заграні́чную валюту, або шукаць іншых спосабаў, каб мець магчымасьць рабіць заграніцай закупы машын і інш.

Калі ставіцца пытаньне аб тым, на якіх варунках можна ўхадзіца у фінансова-эканамічные зносіны з другімі дзяржавамі і дапускаць іх капіталы ў нашу Бацькаўшчыну, то трэба глядзець, каб гэтые варункі не рабілі перашкод нашай уласнай заканадаўчай працы ў сфэры культурна-эканамічнага разьвіцьця нашага народу— з аднаго боку, ды каб чужаземные прадпрыемствы не маглі вынішчыць нашага нацыянальнага багацьця і ня ўціскалі асабітае ініцыятывы нашых грамадзян — з другога боку.

Нацыянальнае багацьце складаецца з усяго таго, прыклаўшы к чаму працу можна атрымаць патрэбны народу прадукт. Грамадзянская-ж праца, яе здольнасьць да вырабу найлепшых гатункаў прадуктаў — гэта, як кажуць, ёсьць абаротны капітал народу, мера яго культурна-эканамічнае сілы. Вось, чужаземны капітал менш за ўсё шкодны, калі ён ідзе ня гэтулькі на эксплуатацыю нацыянальнага багацьця, сколькі на падняцьце культурна-эканамічнае сілы народу наагул.

З гэтага пагляду, найлепшым об'ектам прылажэньня чужаземнага капіталу могуць стацца нашы чыгункі і водные дарогі. У нас нямашака патрэбнае фінансовае сілы, і ніхто ня дасьць нам гэтулькі грошы, каб мы маглі нашы комунікацыйные дарогі зрабіць тым, чым яны павінны быць: зьвязкам паміж Усходам і Заходам, паміж Балтыцкім і Чорным морам. Але заходніе дзяржавы як раз вельмі зацікаўлены такой пастаноўкай справы: гэта важна для іх як з эка-

намічнага, так і з палітычнага боку. З эканамічнага — бо гэта дарога да расейскіх і украінскіх рынкаў з іх вялізарнымі запасамі сырых матэрыялаў; з палітычнага — бо заходніе дзяржавы вядуць між сабой конкурэнцыю. Вось, ім ёсьць інтэрас узяць ад нас концэсіі на чыгункі і водные дарогі. Для амэрыканцаў гэткіе концэсіі маюць яшчэ і тую вагу, што далі-б ім магчымасьць калі не монополізацыі, дык кантролю над усей таргоўляй хлебам: у Заходнюю Эуропу, апрача Амэрыкі, заўсёды дастаўляла хлеб яшчэ толькі Расея (асабліва ў Нямеччыну) і глаўным чынам Украіна.

Сабраць патрэбные статыстычные матэрыялы, паказаць, якую вагу мелі-б гэные концэсіі ў дзелі паступовага разьвіцьця нашае прамысловасьці, выясьніць вартасьць іх і цану, якую можна-б за іх узяць, выпрацаваць дэталі концэсыйнае умовы — усё гэта павінен зрабіць аўторытэтны орган, які магла-б быць дзяржаўная фінансова-тэхнічная экспэртная палата. Пакуль такога органу няма, я, каб пры абмяркоўваньні справы мець выходны пункт, не ручаючыся і не пасягаючы на абсалютную правільнасьць (бо няма фактычнага матэрыялу), пастараюся хоць прыблізна паказаць, што могуць быць варты гэтые концэсіі, і што нам трэба за іх атрымаць.

Прадажная цана концэсій павінна складацца: 1) з аплаты вартасьці істнуючых чыгунак, дарожных майстэрняў, будынкаў і рухомага складу (паравозаў і вагонаў); 2) з капіталізованай рэнты, — гэта значыць з капіталізованага дадатковага даходу звыш нормальнага працэнту ад прадпрыемства (4 — 6 прац.); 3) з працэнтнага ўчасьця ў даходах, якіе напярод не аблічаны або становяць звышку над сьметнымі спадзяваньнямі.

Цаніўшы вярсту істнуючых чыгунак з усім, што да іх прыналежыць, па сто тысяч залатых рублёў за двухкалейную (усяго іх у нас каля 3,500 вёрст) і па восемдзесят тысяч за аднакалейную (каля 2,500 вёрст), атрымаем: 100,000 з. р. × 3,500 + 80,000 з. р. × 2,500 = 350,000,000 з. р. + 200,000,000 з. р. = 550,000,000 залатых рублёў.

Агульную суму ад капіталізацыі рэнты з істнуючых дарог і з тых, якіе маюць быць яшчэ пабудованы, можна болей - меней правільна падлічыць тады, калі будуць сабраны статыстычные матэрыялы,—але можна і загадзя сказаць, што яна павінна быць даволі значная, бо вядома, што ўсе прадпрыемствы, якіе былі ў старой Расеі, хоць і вяліся блага, ўсё-ж давалі даходу ня менш 12—15 прац., дык капіталізованая згэтуль рэнта, калі не перавысіць коштаў будовы чыгунак, у кожным прыпадку павінна быць роўна ім. Калі-ж ня толькі даць права, але і абязаць концэсіянераў разы ў чатыры павялічыць сець нашых чыгунак, дык гэта сума будзе каля мільярду залатых рублёў.

Істнуючые водные дарогі варты каля 250 мільёнаў залатых руб. (Бярэзінскі і Агінскі каналы разам з усялякімі іншымі будоўлямі, якіе рэгулююць русло Дняпра і яго прытокаў). Капіталізованая-ж рэнта як ад гэтых дарог, так і ад новых (напр. Рыжска - Херсонскі канал) павінна быць больш за мільярд залатых рублёў.

Калі ўсе гэтые сумы зьлічыць разам, дык атрымаем два міль-ярды восемсот мільёнаў залатых рублёў. У гэту суму павінны ўвайсьці кошты выкупу прыватных чыгунак і параходных компаній.

Незалежна ад гэтага, дзеля павароту ў нашым краю нормальнага эканамічнага жыцьця мы павінны дабівацца, каб пры аканчацельнай разьвязцы пытаньня аб палітычным істнаваньні нашае Бацькаўшчыны 1) былі скасованы тые даўгі, якіе асталіся на нас у спадчыне ад Расейскае імперыі, залічыўшы іх на компэнсацыю за зробленые нашай Бацькаўшчыне і нашаму сялянству шкоды пры адходзе расейскай арміі; 2) каб да Беларусі быў прылучаны Брянскі фабрычна-завадзкі район у замену за эвакуованые з нашага краю расейцамі фабрыкі і заводы; 3) каб былі нам вернены ўсе шкоды ад окупацыі нашага краю; 4) каб немцы аплацілі-бы сваей валютай ост-маркі, якімі яны навадзнілі окупованые землі; 5) каб прынамсі на першы час была падтрымана заграніцай наша ўласная валюта.

Трэба сказаць, што калі-б толькі нам удалося аддаць на добрых варунках концэсіі, то асаблівай труднасьці з валютай у нас ня будзе. Перш-наперш мы атрымалі-бы гатоўку за концэсіі, дый апрача таго концэсіянеры павінны былі-бы ўвязьці да краю шмат сваіх грошы на будаўніцтва чыгунак і водных дарог. Калі-ж усе гэные дарогі пачнуць даваць даход, дык гэты даход будзе главным чынам ад транзіту праз Беларусь чужаземных тавараў. Тое, што будуць плаціць Беларусі, пайшло-бы на выплату пэнсій службоваму пэрсоналю, значыць аставалася-бы ў Бацькаўшчыне. Апрача таго, к канцу будаўніцтва мы пасьпелі-б ужо наладзіць сваю прамысловасьць, і наш вываз мог-бы быць вышэй прывозу.

Што датычыцца нашага вывазу за кордон, то трэба сказаць, што пакуль мы не ўмацуем нашае прамысловасьці, да тае пары ў нас пэўных гатункаў дзеля вывазу ня будзе. Вывазіць-жа сырые матэрыялы—гэта наагул кепская справа, бо гэта ёсьць падарунак чужынцам, гэта той кусок хлеба, які рвуць ад сваіх і нізавошта аддаюць чужым. Калі-ж вырабіць самым гэнае сыр'ё няма ніякае магчымасьці, то прыходзіцца гадзіцца і на вываз яго. Але і тут трэба разрожніваць два роды сыр'я: тое, якое дае сельская гаспадарка і якое праз год або некалькі гадоў аднаўляецца (напр. лес),—і другое—нетра зямлі, расход каторага ізноў не папаўняецца. І калі першае шкадуючы ўсё-ж можна вывазіць, дык другога ў нявырабленым стане зусім нельга вывазіць.

Дый пры вывазі сыр'я трэба апрацаваць такіе ўмовы, каб замест нашага атрымліваць патрэбнае нам сыр'ё з чужыны (напр. жалеза, медзь, серку і інш.). З нашага сыр'я на першы пачатак можна будзе вывазіць лясные будаўляные матэрыялы, лён, пяньку; з паўфабрыкатаў—дрэўны і вінны сьпірт, цэлюлёзу, ільнянае масла, алей, крахмаль.

Аднак, пры ўсіх умовах з заграчнікамі мы павінны цьвёрда дамагацца, каб заграніца дала нам усё тое, што абсолютна патрэбна нам дзеля адбудовы нашае прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Гэта спісана збольшага ў ніжэйпаданых трох табліцах

# Табліца № 1.

## Спіс рэчы, патрэбных з заграніцы дзеля с.-гасп., культ. жыцьця і асьветы.

| НАЗОЎ РЭЧЫ: | Лік: | Прыблізная цана ў залатых рублях агулам: |
|---|---|---|
| Комплектаў мёртвага інвэнтару (лічучы ў комплекце: 4 паравые плугі, 40 конных парных і 150 аднаконных, 20 дзіскавых барон, 10 жнівярак, 10 касілак, 200 кос, 200 сярпоў, 10 сеялак, 1 паравую малацілку) . . . . . . . . . | 500 | 30,000,000 |
| Комплектаў жывёлы (лічучы ў комплекце: 5 верхавых каней, 10 запрэжных, 150 рабочых каней, 30 пар гавяд, 25 пар сьвіней, 20 пар тонкарунных авечак). | 500 | 70,000,000 |
| Навучных добра абстаўленых ляябораторый: | | |
| мэханічных . . . . . . . . . . | 1 | |
| будаўляных матэрыялаў . . . . . | 1 | |
| электротэхнічных . . . . . . . . | 2 | 8,000,000 |
| хімічных (комплектаў) . . . . . | 2 | |
| фізычных і фізычна-хімічных . . | 2 | |
| станцый дзеля навуковых досьледаў аб гаспадарцы (ляборaторый) . | 3 | 2,500,000 |
| Клінік унівэрсытэцкіх (комплектаў). | 3 | |
| „ звычайных-фэльчарскіх (комплектаў) . . . . . . . . | 15 | 5,000,000 |
| Тыпо-літо-цынкографій . . . . . | 10 | 2,000,000 |
| Радіо станцый вялікае моцы . . . | 3 | |
| « « малой « . . . | 15 | 1,500,000 |
| Комплектаў дінамо-машын (у кожны комплект уваходзіць 100 рознае моцы дінамо-машын) . . . . . . | 50 | 10,000,000 |
| Комплектаў сталярска - сьлесарных, такарных і кавальскіх майстэрняў. | 30 | 3,000,000 |
| Усяго на . | — | 132,000,000 з. р. |

# Табліца № 2-а.

## Спіс патрэбнага фабрычна-завадзкога абарудаваньня на першые пяць гадоў.

| Назовы заводаў, якіе трэба пабудаваць: | Л і к: | Прыблізны кошт мэханічнага абарудаваньня (зал. р.): |
|---|---|---|
| Сілікатная тэхнолёгія: | | |
| а) цагельні і выраб дахоўкі . . . | 200 | 10,000,000 |
| б) цэмэнтные заводы . . . . . . | 10 | 8,000,000 |
| в) шкляные гуты . . . . . . . . | 5 | 750,000 |
| г) порцэляновые (фарфоравые) зав. | 2 | 400,000 |
| Мінэральная тэхнолёгія: | | |
| а) супэрфосфатные заводы (мецімуць вялікі збыт тавару дома і на Украіне) . . . . . . . . . . | 10 | 1,000,000 |
| б) дзеля дабываньня азотнага квасу (з паветра—патрэбны вельмі сільные электрычные устаноўкі). | 2 | 5,000,000 |
| Мэталюргічные заводы: | | |
| а) чыгуна- і сталелітные (для работы, як з прывозным матэрылам, так і з мясцовай „балотнай" рудой) . . . . . . . . | 2 | 1,500,000 |
| б) меднаплавільны . . . . . . | 1 | 400,000 |
| в) алюміневы . . . . . . . . | 1 | 1,000,000 |
| Вырабу машын . . . . . . . . . | 2 | 8,000,000 |
| Фабрыка дінамо-машын і электрычных прылад . . . . . . . . . . | 1 | 5,000,000 |
| Паравых вадатрубных катлоў з тарфяной топкай . . . . . . . . . | 200 | 1,500,000 |
| Устройства вадзяных турбін з электрыфікацыяй сілы вады . . . . | 500 | 2,000,000 |
| Усяго на . | — | 44,550,000 з. р. |

# Табліца № 2-б.

## Спіс патрэбнага фабрычна-завадзкога абарудаваньня на першые пяць гадоў.

| Назовы заводаў, якіе трэба пабудаваць: | Лік: | Прыблізны кошт мэханічнача абарудаваньня (у залатых руб.): |
|---|---|---|
| Заводы спажыўнае тэхнолёгіі: | | |
| 1) цукраварні—для цукровага пяску | 10 | 6,000,000 |
| 2) « « рафінаду . . | 1 | 1,000,000 |
| 3) вінакурных бравароў (сьпірт патрэбен для тэхнічных мэт) . | 100 | 3,500,000 |
| 4) рэктыфікацыйных . . . . . . . | 2 | 300,000 |
| 5) піваварняў . . . . . . . . . | 3 | 150,000 |
| 6) крахмальных заводаў . . . . | 25 | 250,000 |
| 7) патачных . . . . . . . . . . | 10 | 200,000 |
| 8) дражджовых . . . . . . . | 5 | 100,000 |
| 9) маслабойных . . . . . . . | 20 | 100,000 |
| 10) мылаварных . . . . . . . . | 5 | 100,000 |
| 11) сьвячных і гліцэрынавых . . . | 3 | 75,000 |
| Заводы арганічнае тэхнолёгіі: | | |
| а) лесапілак . . . . . . . . | 25 | 250,000 |
| б) сухое перагонкі дрэва . . . . | 10 | 2,000,000 |
| в) газавых заводаў (сухое перагонкі вугальля) . . . . . . . | 3 | 500,000 |
| г) рожных хімічных заводаў (арганічны сінтэз фарб, лекаў, выбуховых матэрыялаў, сахарыны і іншых тэхнічных матэрыялаў і прэпаратаў) . . . . . . . . | 10 | 10,000,000 |
| д) паперняў . . . . . . . . . | 10 | 4,000,000 |
| е) цэлюлёзных фабрык . . . . . | 15 | 2,000,000 |
| ж) штучных тканін . . . . . . . | 3 | 1,000,000 |
| Ткацкіх фабрык рожных . . . . . | 3 | 1,500,000 |
| Запасных ткацкіх станкоў . . . . | 1,000 | 1,200,000 |
| Усяго на . | — | 34,225,000 з. р. |

Па ўсіх трох табліцах на першые пяць гадоў патрэбна жывога і мёртвага інвэнтару і мэханічнага абарудаваньня дзеля найбольш патрэбных для нашага краю фабрык і заводаў, прыблізна лічучы, на суму каля двохсот дзесяці мільёнаў залатых рублёў (210,775,000 залатых рублёў). І ўсё гэта мы маемо магчымасьць атрымаць з заграніцы пры магчымасьці наладжаньня незалежнае фінансовае і эканамічнае гаспадаркі Беларусі.

**Інжэнер А. Галавінскі.**

---

# Хатніе промыслы у Беларусі.

Беларусь—гэта край пераважна сельска-гаспадарскі, дык і найбольш разьвіты тут хатніе промыслы, зьвязаные з земляробствам: выраб колаў, абадоў, дуг, сельска-гаспадарскага струманту, рашотаў, збруі, драўлянага начэньня і т. п. Апрача таго гэты край адзначваўся ад усяе Расеі тым, што тутэйшы народ носіць палатно і сукно выключна дамовае работы,—і з гэтае прычыны ткацтва становіць найбольш разьвіты з хатніх промыслаў.

Поўных досьледаў аб хатніх промыслах у нашай старонцы дагэтуль нямашака. Былі толькі частковые. Да іх трэба залічыць стацьцю «Аб беларускім мястэчковым і вясковым хатнім рамясьле», надрукованую ў № 8 „Нашай Нівы" за 1908 год. У № 9 «Н. Н.» за 1909 год у стацьці „Аб ткацтве на Беларусі і Літве" перальічаны ўсе краёвые ткацкіе школы-майстэрні; ў № 11 з таго-ж году ў ст. „Аб Казіміраўскім кірмашы ў Вільні" сьпісаны ўсе вырабы, якіе прадаваліся на гэным кірмашы, паказаўшы месца і стан вырабу. У 1911 г. «Наша Ніва» разаслала хатнім рамесьнікам анкету дзеля абзнаямленьня з станам хатніх промыслаў і атрымала каля 30 адказаў, але гэты матэрыял яшчэ не апрацованы. Колькі год таму назад была надрукована справаздача віленскага фабрычнага інспэктара Вульфэрта аб хатніх промыслах,—ды, на жаль, у такім малым ліку эгзэмпляраў, што яна становіць бібліографічную рэдкасьць. Мала зрабілі тут і земствы. Магілёўская Земская Управа зрабіла анкету ў сваей губэрні і надрукавала рэзультаты яе ў 1912 г. Але матэрыял яе лішне схэматычны і не дае жывога вобразу хатніх промыслаў у Магілеўшчыне. Першая спроба болей-меней сур'ёзнага досьледу аб хатнім промысьле ў Магілеўшчыне была зроблена ў 1882 гаду ў кніжцы Дэмбовецкага „Опытъ описанія Могилевской губерніи". У 1910 г. І. М. Мусерскій, земскі дзеяч, зрабіў справаздачу камітэту дзеля спраў земскай гаспадаркі „О состояніи въ Могилевской губерніи кустарной промышленности и о необходимости прынятія мѣръ къ поднятію ее". Ведамасьці Дэмбовецкага ўжо лішне старые,—і справаздача Мусерскага зьяўляецца найбольш поўнай працай аб хатніх рамёслах Магілеўшчыны.

Аб хатніх промыслах у нашай Бацькаўшчыне можна сказаць, што шмат дзе, з прычыны слабога разьвітку краёвай фабрычнай прамысловасьці, яны становяць вялікую падмогу ў гаспадарцы, даючы магчымасьць папаўняць дэфіцыты і выкарыстаць вальнейшы час у восені і зімой. Напрыклад, у ваколіцах, дзе мала лесу, дзе сяляне ня могуць зарабляць сякучы і возячы яго,—там хатні промысел мае асабяівую вагу. Аднак, з прычыны прымітыўнасьці тэхнікі, грубасьці інструмэнтаў, нястачы абаротнага капіталу дзеля паляпшэньня тэхнікі, хатніе вырабы маюць пераважна гэткую малую цану, што не аплачаваецца іх далёка вязьці, і яны прадаюцца адно ў сваей ваколіцы. Нястача арганізаванага збыту і малацэннасьць хатніх вырабаў—вось глаўные прашкоды ў правільным разьвіцьці іх, якіе трэбало-б перш за ўсё зьвясьці. А то ў нас выходзіць гэтак, што ў адным районе колы вельмі танные, а ў другім—прыкладам у м. Радашкавічах прывезеные на торг колы мігам раскупляюцца па добрай цане, дый шмат хто ня можа іх дастаць.

У гэтай нашай працы мы апішам коратка ўсе тые хатніе промыслы, якіе найбольш у нас разьвіты. *)

## Ткацтва.

Ткацтва пашырана ўсюды, і ў ім—у ўзорах, падборы калёраў і рысункаў—выяўляецца характар народнага мастацтва. У меру таго, як усялякіе фарбы станавіліся ўсё таннейшымі і больш даступнымі вяскорым жыхарам, гэтае пераважна жаноцкае рамясло разьвівалася і лепшала з кожным годам. Прасьці і ткаць — гэта адна з найважнейшых цнот і сьвяты абавязак кожнае беларускі.

Выдатны стары цэнтр ткацтва ў Беларусі — гэта Слуцак. Тут яшчэ ў 1750 гаду залажыў ткальню кн. Радзівілл. Ткалі шаўковые з золатам і серабром тканіны і слаўные на ўвесь сьвет слуцкіе паясы. Кіраваў ткальняй Леў Мажарскі, каторы, папаўшы ў палон у Константынополь, добра пазнаёміўся з усходнім ткацтвам і перанёс яго да сваей Бацкаўшчыны Беларусі. Плянтацыі тутавых дрэў захаваліся ў Слуцку да нашых дзён, але ткацтва даўно падупала. У мястэчку Капылі, Слуцкага павету, ткацтва перахавалася і да цяперашняга часу. Прывілей і статут ткацкага цэху былі тут зацьверджаны кн. Багуславам Радзівіллам ажно ў XVII сталецьці. Аднак і капыльскае ткацтва дайшло да упадку. І цяпер капыляне ткуць адно аснову для ліноleуму.

Усё-ж, паасобные аазісы разьвітога ткацкага хатняга промыслу можна спаткаць шмат дзе. У Навагрудзкім, Барысаўскім і Віленскім паветах, каля Шумска і Ільінска, сустракаюцца вельмі харошые коўдры, андаракі (спадніцы) і т. п. Ля ст. Аляхновічы ў двары Гойжэва грамадзянка Эрдман арганізавала надта вялікую майстэрню, дзе ткалі рожные тканіны ў беларускім народным стылю. У м. Глыбокім мясцовае сел.-гасп. т-ва адкрыла ткальню на 6 станкоў, але

*) Усе ніжэйшые данные адносяцца да перадваенных часоў (Рэд.).

тутака ня было народных узораў. У двары Паставы Дзісьненскага пав. грамадзянка Пржэздзецка заснавала ткацкую школу. Ля ст. Старае Сяло Р.-О. чыгункі (Вітэбск. губ.) тамтэйшы сьвяшчэнік наладзіў пры школе майстэрню, дзе выраблялі дываны, вобуў, палатно. Найвялікшая-ж ткацкая школа—гэта ў Рэжыцы, Віт. г., арганізаваная больш за 10 гадоў таму назад Аннай Мооль. Дзякуючы гэтай школе паўстала пераважная часьць краёвых ткальняў.

Латышкі, якіе жывуць пад Рэжыцай, больш здольны да ткацтва, чымся беларускі. У вёсках навакол Рэжыцы працавала каля 20 станкоў-самалётаў для сукна. У м. Тавдовяны (пад Рэжыцай) — яшчэ 14 станкоў у трох вёсках. У двары Борэк, Дзьвінскага пав. (каля ст. Ніцгаль Р.-О. ч.) — 8 станкоў, на якіх працавалі латышкі; тут ткацкая работа наладжана сямьёй Плятэраў. Пад м. Варнянамі, Віленскага пав., да вайны ў трох вёсках было ўжо 14 самалётаў, заведзеных Аннай Мінэйко.

У м. Койданаве ў мірны час была паказная ткацкая майстэрня з 5 станкамі, ткаўшымі палотны. У м. Клецку працавалі 8 станкоў-самалётаў. У двары Побікры, каля м. Цеханоўца, Гродзенскай губ., Бельск. пав., ёсьць вялікая ткальная, дзе працуюць выключна наёмные ткачыхі. У двары Княгініне, каля Касьцяневіч, Вілейскага пав., нейкі час працавалі самалёты, заведзеные гаспадыняй двара Козелл-Поклеўскай. Пры краме А. Мооль у Вільні, дзе прадаецца дамовае сукно, арганізована вялікая ткальня сукна і палатна і пры ей пасрэдніцкая кантора. У горадзі Дзісне ёсьць ткацкая школа на 12 самалётаў; тутака ткуць ня толькі палатно, але і сарпінку. Пад Слуцкам так сама ткуць палатно на самалётах. Каля ст. Лапы, пад Беластокам, у двары Петкове арганізована паказная школа на 15 станкоў, ткаўшая тонкае сукно для жаноцкіх опратак.

Агулам у 1909 гаду ў Беларусі было каля 107 станкоў-самалётаў. Пераважна школы атрымлівалі гатовую воўну з віленскага складу Мооль; выткаўшы сукно яго пасылалі праз той-жа склад у Беласток для апрэтуры (раўняць ворсу, прасаваць).

Дзеля правільнае пастаноўкі справы вырабу сукна хатнімі спосабамі трэба было-б арганізаваць коопэратыву, якая мела-бы свой абаротны капітал і магла-бы служыць за пасрэдніка для апрэтуры, дзеля вырабу і дастаўкі нітак і дзеля збыту тканін. Трэба адзначыць, што ўсе пералічаные школы маюць высокую тэхніку, бо станкі-самалёты даюць магчымасьць ткаць шмат шыбчэй; аднак, з прычыны няпэўнасьці збыту і яго неарганізованасьці, а також з прычыны нястачы ўзораў народнага характару, вырабы гэных школ найбольш насьлядавалі фабрычные тканіны.

## Ганчарства.

Ганчарные вырабы—найбольш характэрны для кожнай ваколіцы як сваей формай, так і аздобамі. Ганчарства вельмі ў нас пашырана: амаль ня ў кожным вялікшым мястэчку ёсьць свой ганчар, каторы выробляе свой тавар самым прымітыўным спосабам. Паліва—

таксама прымітыўная, адно- або двохтонная. Каб падняць гэту галіну хатняга промыслу, трэба выдаць добра распрацованую інструкцыю для ганчароў—з рысункамі начэньня і аздоб у мясцовым стылю. Напрыклад, у Слуцку даволі было даць асабіста трохі добрых рад тамтэйшым ганчаром, — і вось на выстаўцы ў тым-жа месьці былі выстаўлены вельмі пекные ганчарскіе вырабы.

Спаміж месц, дзе ганчарства даволі разьвіта, можна адмеціць: М. Еўе, Віленскага пав., дзе працуе каля 60 ганчароў, збываючы свой тавар у Вільні і ваколіцах; м. Крэва, Ашмянскага пав.; м. Чашнікі, Вітэбскай губ.: мястэчкі Івянец і Ракаў, Менскага пав., якіе выробляюць добрае начэньне і кафлі; месты Вільню, Дзісну, Барысаў.—Навагрудак слыве вельмі добрымі кафлямі хатняга вырабу, якіе маюць усюды добры збыт. У Магілеві і яго ваколіцах выробляюць знамянітае „каменнае" начэньне, якое вытрымлівае самы сільны агонь. М. Гародня, Пінскага пав., становіць найвялікшы ганчарны цэнтр Палесься, і згэтуль глінянае начэньне вязуць у Менск цэлымі вагонамі. Урэшці, ў ваколіцах м. Цеханоўца, Бельск. пав., мясцовые ганчары выробляюць надта харошые чорные гаршчкі, каторые маюць шырокі збыт на ўсіх вакалічных кірмашох.

## Дрэўные промыслы.

Найбольш пашыраны спаміж хатніх промыслаў у лясістых ваколіцах Беларусі—гэта выраб з дрэва.

У ваколіцах Вільні цэнтры гэтага промыслу становяць: м. Сьвенцяны, Лынтупская воласьць, Сьвенц. пав., ды вёска Фалькаўцы. Лідзкага пав., дзе робяць пераважна рожнае драўлянае начэньне дзеля кухоннага ужытку. Паміж іншым, в. Клюкавічы, Лідзк. пав., славіцца вырабам вельмі старасьвецкае формы коўшыкаў з аздобнымі ручкамі. У в. Пляўцы таго-ж павету і ў в. Астрова, Віленск. пав., робяць бочкі, рэшаты і т.-п., а такжа драўлянае начэньне, якое шырока йдзе ў ход на мясцовых рынках. У Гродзеншчыне вырабам длаўлянага начэньня, ў тым ліку вельмі пекных лыжак з ручкай кшталтам рыбы, вядомы Бельскі павет.

Вырабам лыжак, крапілак, рашотаў і інш. славяцца такжа менчукі; іх вырабы вывозяцца на збыт нават у паўднёва-расейскіе гарады.

Калёсы, брычкі, сані, колы і абады выробляюцца каля ст. Зябкі, Бол.-Седлецк. чыг., ды ў в. Руднікі і м. Іўе, Ашмянск. пав., Віленск. г. Што датычыцца Меншчыны, дык гэтымі вырабамі адзначаецца м. Івянец. У в. Пшчурцы, Лідзкага п., пераважна робяць брычкі.

У ваколіцах Дзьвінску выробляюцца вельмі дасьціпные лінейкі, лёгкіе і выгодные дзеля камяністае дарогі: замест рэсораў у іх пакладзена доўгая дошка—ад аднэй восі на другую.

Лодкі выробляюцца, ведама, ля рэк, якіе становяць важные дарогі дзя комунікацыі. Гэтым промыслам занімаюцца: ў Вільні, ў м.

Варнянах, Віленск, п., ў в. Данюшэве на Вільлі, Ашмянск. п. У м. Доброўне, Магілеўск. п., робяць вялікіе судны, вядомые тут пад назовам „дубы“.

## Такарные вырабы.

З даўных часоў вельмі многа рэчаў тачылі з чачоткі у Смаргонях. Токары мелі дужа пекны матэрыял, але зусім ня рупіліся аб мастацкі бок вырабаў, якіе былі надта ўжо аляпаватые; усё-ж яны збываліся на краёвых рынках і нават заграніцай. У Сьвянцянах, паміж іншым, точаць калаўроты дзеля пражы нітак. Апрача чачоткі, сяляне бадай усюды карыстаюцца чорным дубам, дастаючы яго з балотаў; з чорнага дуба робяць сталы, лавы і т. п. Ведама, умеючы, з такога матэрыялу можна рабіць мастацкіе рэчы, як шкатулачкі, полачкі і інш., каторые лёгка можна было-бы збываць па вялікіх мястох і заграніцай. На жаль, дагэтуль няма адпаведнае установы, якая патрапіла-бы пакіраваць нашае такарства на належную дарогу.

Наагул, дзеля разьвіцьця такарскага вырабу трэба арганізаваць пераносные паказные майстэрні з палепшанымі спосабамі і інструмэнтамі; трэба закладаць вытворчые коопэратывы дзеля закупкі матэрыялу і інструмэнтаў і дзеля збыту вырабаў; трэба адкрыць токарам широкі крэдыт і парупіцца, каб іх вырабы мелі больш мастацкую форму і знайшлі-бы шырэйшы збыт.

## Выраб кошыкаў.

Кошыкі плятуць скрозь на ўсей Беларусі. Кожын пастушок, пілнуючы скаціну ў полі, пляце іх для хатняга ўжытку.

У м. Рубяжэвічах, Менскага павету, і ў вакольцах Бабруйска былі спробы садзіць выпісаную з Польшчы кашыковую лазу, але аб рэзультатах гэтых спроб мы ведамасьцей ня маем.

Арганізацыя паказных майстэрняў і спэцыяльных школ ішла ў нас вельмі туга. У Гомелі была земская школа-майстэрня кашыкарства, ды яна на ўзгадавала ніводнага майстра і, наагул, не пакінула па сабе ніякіх сьлядоў. Нейкі час працавала такая школа ў м. Валожыне, Ашмянскага пав.; за вучыцяля быў сьляпы майстар. Яшчэ нядаўна ў школе сьляпых у Менску выраб кошыкаў быў добра наладжаны, і іх збывалі на мясцовых рынках; можна было дастаць вельмі пекные рэчы гэтага роду. З прыватных школ вядома вучэбная майстэрня ў г. Нова-Аляксандраўску, адкрытая пры с.-гападарскім таварыстве грамадзянкай Комароўскай. Вёскі Асова і Таболы, Лідзкага пав., вядомы вырабам дужа моцных карзін дзеля упакоўкі. У в. Клюкавічы, таго-ж павету, плятуць палукашкі для каламажак. У Лабанарах, Віленскага пав., робяць з лучыны карзінкі дзеля ўпакоўкі ракаў, ягад і інш. Пад Лунінцом, Менск. пав., і наагул у Палесьсі паляшукі плятуць з лыка «вераньки» — хатулі з дзьвёх часьцей, каторые складаюцца, як порцыгар

У меру разьвіцьця гандлю і транспорту, а таксама з узростам у народзі жаданьня мець больш выгоды ў хаці гэтае рамясло павінна разьвінуцца. Дагэтуль слаба разьвіта пляценьне латаў для выціраньня ног, хаця гэта гыгіенічная прылада ўваходзіць што-раз болей да дамога ўжытку. На выстаўцы ў Навагрудку нейкі вучыцель паказваў дужа харошые вырабы гэтага роду.

Дзеля палепшаньня і разьвіцьця кашыкарства ў нас дагэтуль нічога ня зроблена. Арганізацыя рухомых і пастаянных школ і пасылка інструктароў у розныя канцы нашае Бацькаўшчыны маглі-б шмат падняць беларускае кашыкарстаа.

## Выраб вобуві і адзежы.

У тых ваколіцах Беларусі, дзе разьвіта гадоўля скаціны, даволі пашыраны выраб аўчын, шапак, скуры і вобуві.

Вырабляюць аўчыны пераважна маскалі, якіе на зіму едуць з сваей стараны ў беларускіе мястэчкі. Скуры-ж з даўных часоў гарбавалі пераважна беларускіе татары. У Капылі, Менск. губ., гэтым заніmаліся дзесяць хат татарскіх. Паміж іншым, яны вельмі добра вырабляюць скуры валовые, конскіе і ласёвые. На жаль, у іх няма ніякае арганізацыі дзеля збыту скур, і іх промысел за апошніе гады шмат падупаў. У іншых ваколіцах гэты промысел зусім загінуў; так, напрыклад, Слуцак славіўся вырабам юхтовай скуры нараўне з Масквой яшчэ ў XVI сталецьці, як відаць з мытных кніг В. Кн. Літоўскага,—а цяцер там нічога не асталося.

Асаблівага разьвіцьця гарбарства дайшло ў нас у Смаргонях і ў Магілёві, дзе істнавалі даволі вялікіе гарбарні фабрычнага характару.

М. Рукойні, Віленск. пав., слыве сваімі кажухамі. У Ганушышках, Троцкага пав., шыюць па хатах хадакі і скураты.

Трэба адзначыць, што палажэньне нашых мястэчковых шаўцоў (а мае іх кожнае мястэчка) за апошніе гады шмат пагоршала з прычыны наплыву мястовае „тандэты“. Івянецкіе шаўцы нават зварочаваліся некалі з „жалабай да начальства“, кажучы, што тандэта пазбаўляе іх куска хлеба.

У Амсьціслаўскім павеці Магілёўскае губ., ў м. Дрыбіне і ваколіцах яго, а такжа ў Шклове здаўна добра працуюць шапавалы, каторые стуль ходзяць на работу ў-ва ўсе мястэчкі Магілёўшчыны, дый у суседніе губэрні. Шапавалы вырабляюць шапкі «магеркі» (ад слова «вэнгеркі»; відаць, гэткіе шапкі мелі вэнгерскіе жаўнеры, пападаўшые некалі на Беларусь пры рожных гістарычных пэртурбацыях), а такжа валенкі і лямцы (падкладкі пад хамуты). Дрыбінскіе шапавалы маюць сваю асобную нібы цэхавую арганізацыю і нават свой асобны язык (слоўнік гэтага языка надрукованы ў 9 выпуску выданьня «Белорусскій Сборникъ» Е. Р. Романова).

## Рымарства.

Гэты промысел, пашыраны ўсюды, асабліва разьвіваецца ў меру разьвіцьця сельскае гаспадаркі. У м. Лужкі, Дзісьненскага пав., вельмі разьвіты выраб рожных аздоб з медзі да збруі, санак, брычак і лінеек. Майстры скупляюць медзь і самы з яе выліваюць тые аздобы. Апрыч таго выліваюць медные крыжы. Працуе каля 50 душ. Збываюць тавар на ўсіх вакалічных торжышчах.

Да ліку зьвёўшыхся промыслаў належыць выраб у в. Боцькава, Бельск. пав. Гродзенск. губ., слаўных на ўвесь край боцькаўскіх „дысцыплін“ (бізуноў), якімі пужалі некалі нашых бацькоў і дзядоў у школах.

## Выраб музыкальных інструмэнтаў.

Вырабам музыкальных інструмэнтаў слывуць Лабанары, Віленск. пав. Тут да апошніх дзён выраблялі знамяніт ые лабанарскіе «дуды».

У в. Ізабэлёва Ігуменск. пав., дагэтуль ухаваўся выраб цымбалаў.

## Машыны і струмант гаспадарскі.

Веялкі, малатарні, сячкарні здаўна робяць у м. Ракаве, ў ваколіцах ст. Радашковічы Л.-Р. ч., дый шмат у якіх мясцох. Ракаўскіе малатарні і веялкі маюць ход нават у Чарнігаўшчыну і ў Палтаўскую губэрню, вытрымліваючы конкурэнцыю фабрычных машын: яны шмат таннейшые і гэтак проста збудаваны, што зламаные часьці можна лёгка сваімі сіламі на месцы паправіць, а папсаваўшуюся часьць фабрычнай машыны трэба пасылаць да папраўкі ў фабрыку. Веялкі дамовае работы, дзякуючы прастаце іх конструкцыі, вельмі добрые, а комбінованые малатарні з саломатрасам і веялкай у рабоце цяжкаваты, і нашым майстром трэ' даць рысункі палепшанага тыпу такіх машын. Бадай палова кавалёў па мястэчках і вёсках майструе свае сячкарні. Плугі і паўплужкі таксама выробляюць усе кавалі; маленькіе паўплужкі для сялян удаюцца добра, але ўжо двох-лямешные плугі і вялікшые за іх выходзяць слаба. Каля Полацка выробляюць сяляне слаўные сякеры маркі «Б», Ля станцыі Старае Сяло майстры-стараверы робяць добрые сьвідры.

## Хімічные промыслы.

У лясістай Беларусі гоняць смалу і дзёгаць, выпаліваюць вугальле, дабываюць шкіпідар. Выганяюць дзёгаць сяляне ў Віленшчыне скрозь, дзе ёсьць лес, асабліва каля Малят, у Лабанарах, у в. Баранаўшчыне і Кокуцішках, ды шмат у якіх вёсках Вілейскага пав. У Меншчыне нейбольш смалы і шкіпідару гоняць Менскі і Барысаўскі паветы.

Паводле апошніх данных „Белсовнархоза“, праўда, вельмі няпоўных, у часе кароткага бальшавіцкага панаваньня ў Меншчыне і Віленшчыне працавалі 17 дробных смалярняў і шкіпідарных прадпрыемстваў.

## Спосабы падняцьця хатніх промыслаў.

Бязумоўна патрэбна шырокая і арганізаваная помач нашым дамовым майстром. Яна цавінна палепшыць тэхніку, памагчы дставаць добры сыры матэрыял, наладзіць збыт, адкрыць крэдыт і навучыць выраблядь лепшые і артыстычнае формы гэтункі.

Трэба закласьці школу керамікі—на падобу школы ў м. Коломыі (ў Галічыне). Есьць магчымасьць разьвіваць ганчарства ўсюды, дзе ёсьць ганчарная гліна,—абы людзям паказалі, як ляпей працаваць. Напр., багаты запас гэнае гліны ёсьць каля м. Увянца. Нам даводзілася бачыць фігуркі і вазы з івянецкае гліны, выпаленые ў добра устроенай печы ў Строганаўскай школе ў Мэскве керамістам Міхалапам. Паводле слоў спэцыялісты, гэта гліна вельмі добра йшкліцца і здатна дзеля мастацкіх вырабаў. Вось, у Івянцы і трэба было-б у найбліжэйшым часе закласьці ганчарскую школу: даючы ўсяму краю майстроў, такая школа шмат пасуне ўпярод разьвіцьце ганчарскага промыслу.

У Меншчыне арганізацыям Міністэрства Зямляробства засаджаны лазой каля 1219 дзесяцін пяску. Дзе ёсьць пяскі, тамака можа разьвівацца і кашыкарства. Школы кашыкарства не вымагаюць ніякіх надзвычайных прыладаў і каштуюць танна, дык іх лёгка ўсюды закладаць.

Трэба на-гвалт заняцца арганізацыяй у Беларусі рамесьніцкіх школ наагул і кароткатэрміновых пераносных курсаў дзеля рожных галін вытворчасьці, трэба выдаваць чым-больш даступных для шырокіх мас брашур аб тэхніцы вытворчасьці. Добра такжа закладаць паказные майстэрні з маласільнымі моторамі. За зіму 1918 — 1919 г. шмат дзе ў нашых мястэчках заведзена экектрычнае асьвятленьне; поруч з гэтым у нас усюды ёсьць торф, — значыць, пры паварощі нормальных адносін, электрычные районные станцыі дзеля асьвятленьня ўсяе ваколіцы і сілы для мотораў маюць вялікую будучыну. Дробные майстры, завёўшы электрычные маласільные моторы, могуць шмат лепш з тэхнічнага боку паставіць свае дзела. Каб-жа падняць іх вытворчасьць з мастацкага, артыстычнага боку, патрэбны: пастаянные выстаўкі-музэі хатніх вырабаў, досьледы аб нашых народных аздобах і распрацоўваньне іх, вызначаньне конкурсаў на мастацкіе вырабы гаршчкоў, тканін, драўляных рэчы і інш

Побач з гэтым трэба арганізаваць коопэратывы хатніх майстроў—як вытворчые, так і дзеля закупу сыр'я і збыту гатовага тавару. Патрэбен такжа шырокі крэдыт дзеля набываньня лепшых інструмэнтаў і падняцьця вытворчасьці.

А. Уласаў.

# АЙ КІТАБ.

(З пасьмертнае спадчыны Івана Луцкевіча).

Літоўскіе татары-магамэтане, якіе дагэтуль жывуць у Меншчыне і Віленшчыне, пасяліліся ў нашым краю ў пачатку XV веку. Яны былі выпісаны, як успамагацельнае войска проці крыжакаў, вялікім князям Вітаўтам. Пасьля вайны яны асталіся ў нашым краю, атрымалі права жаніцца з дачкамі тутэйшых баяр-шляхты і прынялі ад іх фаміліі-прозьвішчы, звычаі, мову беларускую; толькі вера асталася магамэтанская. Вось, для духоўнае патрэбы татарскіе муллы („молны“), арабскімі літэрамі па беларуску перапісалі і ператалумачылі сьвятую кнігу «Ай Кітаб“, збеларушчаную ў „Кіцёп“.—„Ай Кітаб“, сьвятая кніга, гэта ёсьць тлумачаньне Корану, яго прыповесьці важнейшые. Знаньне арабскае мовы хутка загінула, асталося толькі знаўства пісаць арабскімі літэрамі і чытаць напісанае па арабску. Мы бачым яшчэ шмат дакумэнтаў судовых, падпісаных мяйсцовымі татарамі па арабску, але словамі беларускімі. Гэта йдзе праз увесь XVI і XVII век.

Ужо век XVIII прынёс у пісьменстве ўплывы польскіе. Дакумэнты перасталі падпісаваць па беларуску, а пачалі пісаць па польску. Так сама зьяўляецца і тлумачаньне Корану на польскую мову, але пісанае арабскімі літэрамі, а ўжо ў канцы XVIII веку бачым тлумачаньне Корану, пісанае лацінікай, у пачатку-ж XIX веку нават цэлы Коран, друкаваны па польску.

Доўга прышлося шукаць Корану, пісанага па беларуску арабскімі літэрамі, і толькі шчасьлівы прыпадак давёў мяне да яго ў 1915 годзі—перад заняцьцем Вільні немцамі. Знайшоў я яго ў татарскага муллы Сьцяпана Палтаракевіча ў Сорак-Татарах, ваколіцы пад Вільняй. Гэта — зложаны з колькісот страніц рукапіс in folio, пісаны характарам XVI або пачатку XVII веку, без пачатку і канца. Адзін з бэрлінскіх вучоных, якога вайна занесла ў наш край, адшыфраваў некалькі страніц гэтага рукапісу, перапісываючы з арабістыкі на лацініку. Вось я і падаю некаторые тэксты, перапісываючы гражданкай—літэра ў літэру, як яны запісаны лацінікаю.

Стран. 1:

„Напрод Божэ іме успамінайма, мілосьць у нутрах свайіх уфундуем. Першый і остатній Он ест векоістый, да кожнэй рэчы моцный. Ніхто Ему непадобный. Едыный ест. Есьлі нічога не было стварыў сьветы“.

Стран. 2:

„Цемна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі. Дошч ішоў, цемна было, вецер веяў. Разумеў, што судный дзень настаў“.

Разгледаючы гэтае старое правапісма беларускае, пісанае арабістыкай, мы бачым дзьве характэрные асобеннасьці, каторых у кі-

рылічным тэксьце беларускіх старых грамат ніколі не спатыкаем. Гэтак тут ясна азначаны звук „дз"—напрыклад у словах „дзень", „не віддзелі" і т. д. Для гэтага у арабскай транскрыпцыі есьць асобнае напісаньне, якое перапісываўшый на лаціміку адзначываў перачыркненай літэрай d. Так сама асобным знакам азначаны і звук „дь" — напрыклад „демна", „сьветлаcьці", — а у кірылічнай транскрыпцыі было-б „темна", „сьветласьті". Тутака бачым, што звукі „дз" і „дь" ясна пісаліся,—значыць, яны ў жывой мове XVI і XVII вякоў выгавараваліся. Гэта ёсьць бязспрэчны доказ, што жывая беларуская мова мае гэтые два характэрные звукі ад найдаўнейшых часоў, і што новая беларуская транскрыпцыя ёсьць зусім правільная, а ўсе хітрыкі масквафілаў, каторые не прызнавалі гэтае транскрыпцыі, фундуючыся на беднасьці кірылічнай транскрыпцыі, ня маюць пад сабой ніякае навучнае падставы — апрача русыфікацыйнае тэндэнцыі, каторая цяпер назаўсёды адпадае з адкрыцьцем гэтага цэннага беларускага памятніка жывой беларускай мовы XVI або XVII вякоў.

Іван Луцкевіч.

Разам з гэтай заметкай у паперах памершага летась найстарэйшага беларускага дзеяча і вучонага археолёга, Івана Луцкевіча, аказаўся і расшыфраваны адрывак рукапісу кнігі „Ай Кітаб", каторы мы ў цэласьці тут і памяшчаем.

Стр. 1. naprod bože ime uspaminajma. miłość unutrach swajich ufundujem. peršij i astatnij, on jest vekoistij. da kožnej reči mocnij nichto jemu nepadobnij jedinij jest jeśli nicoha nebiło stvariv šveti. ludzi jeśli d a n o d z e j padobno ferej i divi stvariv žemlu i neba ludzej i anheli. meseć i słonća i zvezdi šem krot nebos za raskazanem meseč i słonća uzidze i zajdze. razsudku jeho kažnij trimaje potim meseć i słonća zvaže person. dašć jemu rozum i miłość. i vadomość nauka jest także i twaja. pej salawat praroku aj brače. prarojč kamu ma radžu trimaj ucha duši dobre miłość swajej čin pomač

Стр. 2. Uspomnem ma radž prarockij. kali učuješ ji rada budze uša duša.

Movił Abbasov sin toje słova. wedamašć daje prarok jemu sam

Prarok movił skažu šcuše dzejała. sin abbasov dsluchaj mene.

Adklanavša unoči j e t č i n e m a z vešev z domu chadiv pamału

Čemna biło oči švetlašci nevidzeli. kuri nepeli sabaki nebrechali

Dożš ičov ćemna bilo većer vejav razumev što sudnij dzen nastav

Meżi „safa“ i „merve“ chadziv misloće meżi jich stojav.

A zemli a nebosach mïsliv. moci bożej dzivavavša

Kazav iż to jest moćnij prawdziwij pan, jak stvariv zemlu i nebosa na powesju

Стр. 3. U tom umiśle spać mne zahaćela. sin Abbasov visluchaj heta slova

Potim ačnuvša skora hlanuv na čatiji starani. čatiji anheli uvidzev što kożnij u rukach pa charongvi dzerżać hetij uveś śvet uśvetlaści stav

Hetij śvet napovnivše śvetlaśćej skanca u kanec blask pav na haru na kamena

Z nebem bila rovna każnaja harongev. uperad prišev Gebrail dav s e l a m

Hlanuv Gebrail u tvar. meseć slonca zasmelo

Meseć i slonća nesenili parsonu svaju. ad zemli da neba aperlaśe velična jeho

Napisano jest pered jim dva šatiri. nemaš inšaho boha tilko Allah ima jeho moćnaho.

Blask bjeć druhoha šatira javno. że Mochammed posol bożej Mochammed prorok.

Стр. 4. Seść sot krilje spelna śemdześat sot hod każnaja krila

Śem sot polkov jeho bilo valasov. pela darahija kamenja na każnam kanću

Tvari charošej i hołas ż červonaho „akika“ bilo na jom adzena

Pitav ja napotim i brače Gebrailu čivżu trubiv u trubu israfil

Či prikazane bożeje nam adnavilaśe a vśom mne daj znaći i vedaći

Heta noč što za noč skażi mne Gebrail movil śemenčoje tabe praroče

Maradż noč jest praroče ne frasojśe no:. tr:. trimaj vesolij

Taja abetnića što abecav pravdzivij tabe dojdzeš hetaj noči da taje abetniće

Što tabe dav nikomu nedav evlija praroki ne vedali

Стр. 5. A stvarene ćebe pavеličiv ad usich ćebe pażadav

Jest ti bożij miłośnik i Mochammed ad ćebe nam usim pričina maje bić

Ustań praroče apašiśe bliska mejsće aješ meć kopanu boha

Abašič pana boha u bličnośc što zachočeš usio abašič

Pri azdobić dla ćebe nebosa radujuca što uvidzev praroka

Na semi nebos što jest anhelej chorošej tvari chočuć vidzeć żadajuć

Prosać pana boha za ćebe da [illegible]juć use za dušu tvaju

Skora učuv ad Gebraila tije slova zaradovavśa tvar na zemli palaživ

Pahnuv adzena što nadzev. Gebrail movil što činiš i duša praroče

Стр. 6. Jeho svetnaho adzena staboj ne treba jest raskazane bożeje mne

Oto prislav tabe inšaje adzena ničoha jest preciv hetaho atlas

Dvoje adzene uzlaživ na mene zelonaje zmoci svajej stvariv toje pan boh

Iz śvetlaści tije aboje stvaroni blaskam napovnivśe uveś śvet

Skora nadzev na śebe toje adzena za ummet svoj velmi frasovavśe

Movilem iż to jest stvoricel pan boh či buduć nasić ummeti takoje adzene

Адрывак гэты, перагледжаны праф. Б. Тарашкевічам, памяшчаем лацінскай транскрыпцыяй—так, як ён і быў расшыфраваны нямецкім вучоным.



Корнэль Уейскі.

# ХАЎТУРНЫ МАРШ.

Гэтак звоняць! А так звоны рвуць мазгі балесьне!
А ксяндзы—куды пруць роям з груганавай песьняй?
Тут-жа, блізка, прада мною чорны воз туркоча...
Як мне цёмна! Воз той чорны зацямніў мне вочы.

Недзе ў высі крыж ясьнее, мігаюць паходні...
А мяне вядуць пад рукі,—так іду выгодне:
Самі ногі йдуць, здаецца,—скачанеўшы ногі.
Добра, што вядуць мяне так: ня зблуджу з дарогі.

Так іду, плыву, як сьпячы, бяз чуцьця, бяз волі,
Галаву ды сэрца толькі страшна мучаць болі.
Капцюры іх рвуць якіесь — вострые, крывые,
А званы тут цягам звоняць, вараньнё ўсьцяж вые..

Чую музыку якуюсь, водгульле нясецца....
Б'е з вачэй жар, а па твару штось зімное льецца.
На меня глядзяць, а блізка падыйсьці ня сьмеюць,—
Мабыць ё ў маім штось твару, што так страхам веець.

А воз цягнуць дзьве пар коні у жалобным строю, —
А мяне якаясь сіла цягне за сабою.
Ах мой Божа! Ка мне пхнецца дамавіна-скрыня!
Там майго загадка быту, — там, у дамавіне!

За што так мяне скараў Ты, Богам называны?
    Ах, за што, за што?
Уладар зямлі і неба, сонцаў і курганаў
    Згнёў мяне ў нішто?!
    Дзе той Бог,
    Што так змог?

Ці яго звон гэты весьціць і той крык варон?
Хай тут стане прада мною ў постаці сьмяячай
    — Ен, страшней за ўсё!....
Бо вялікшы я цярпеньнем, хоць нішто ня значу,
    Чымся моц Яго!
    Ой, злы Ен!
    Ой, злы Ен!

Гэтым словам б'е звон, вые...
Езус, Марыя!
Як-жа мучыць гэты звон —
Гэты звон! звон!

---

На атласе заламала
Ручанькі на крыж,
Усьмяхаецца з прасоньня...
Ах, ты ўжо ня сьніш!

Ня ўздыхнеш па белых рожах,
Па вянку ў жальбе, —
Пацалункамі ў галоўку
Ня збуджу цябе.

Не глядзіш, што за табою
Йду я—труп бляды,
Што вяду туды з жалобай,
Скуль ня прыдзеш ты.

Ці-ж на то хавала маці
Не адну вясну,
І кахаў я да астатку,
Каб клаў у труну?

Вось якое мне вясельле?!
І я ў гэткі дзень
Жыці мушу? Божа! Божа!
Што пачну я — цень?

Дабраты была анельскай,
А любіла як!
Быццам песьняй, быццам казкай
Дні плылі нам так.

І пры ёй ня знаў я грэху,
Дабрату я знаў,
Бо з яе вачэй і ўсьмешкі
Благаслаўленьне браў.

Для мяне была скарбніцай
Творчых дум і цнот;
Вёў мяне яе стан гібкі
Да сьвятых яснот.

Дзе-ж мяне завёў урэшце
Пасьля цяжкіх спроб?
К апраметнай шоў я ў сонцы,
Праз надзею — ў гроб!

Вось якое мне вясельле?!
І я ў гэткі дзень
Жыці мушу? — Божа! Божа!
Што пачну я—цень?

Паднялі труну на плечы, панясьлі пасьпешна;
Мяне ўдзержыць хочуць сілай—ха-ха! вот пацешна!
Проч з дарогі, разявякі, з хлысьцьбаю дасужай!
Бо я молад і сярдзіты, а кулак мой дужы....

Я адзін к ёй маю права, а вы проч, насланьне!
Чорны збродзе! Толькі роўны хай да бойкі стане!
З вас ніхто майго цярпеньня у грудзёх ня зьмесьце!...
— І ўцяклі ўсе. Сам іду я, грозны цар балесьці!

Сярод гоману і звону ўсіх званоў бяз ладу
Сам іду я к дамавіне—да майго пасаду!
Ты, грабар, на гэтым насьпе ўсьпёрты на лапаце,
За дол для цара такога колькі хочаш, браце?

А капай мне дол глыбока, бо сьвет мне—горш нетраў!
Ад тваей цяжэй зямлі тут гнецць мяне паветра....
Проч з крапілам! І сьвятая яе капля спляме!
Я адзін тут маю права: пакраплю сьлязамі!

Здань-рука ка мне вылазе з-пад манашых полаў,
Ясна-моцная такая! Дух гняце мой кволы....
І мяне яна кранула! Пахіліўся, ўпаў я....
І ўзялі мяне, панесьлі, а куды—ня знаю.

Ах, за колькі капляў шчасьця людзі плацяць сьвету
Цэлым морам сьлёз!
Ой, дурны сьвет,—і на што ты створаны ў цьму гэту?
Дзе твой скон? Дзе ўзрос?
Яго рух—то-ж мой дух!

Я-ж—як сэрца, што ў ім б'ецца, ён—пусты, як звон!
Ці каго аб тым прасіў я? Без маей хто волі
Мне сказаў прыйсьці?

Хоць-бы там мяне скавалі—не сяджу ў няволі:
Маю моц пайсьці!
Ой, злы Ен!
Ой, злы Ен!

Гэтым словам б'е звон, вые...
Езус, Марыя!
Як-жа мучыць гэты звон—
Гэты звон! Звон!

Ператлумачыў з польскага Янка Купала.

Менск, 9/IV 1920.

——oo——

# ПАТАЁМНАЕ.*)

— Гу-гу-гу,—загудзела глухая пушча, заракатала, заківала макушкамі.

— Ку-га! Ку-га!—закугакала нешта страшнае. Ці русалка там гуталася на гібкай і гнуткай галіне і пяяла, сумувала аб нечым мінулым, сардэчным. Ці мо' сава гукала да сябе дуракаватага зайку.

— Жгу-жу-жу...—гаманілі лісьцікі на бярозах і з баючай цікавасьцю і з вялікай жальлю і страхам слухалі спрадвечную гутарку лісточкаў асіны, што без надзеі і спуджана, як у трасцы, трапыхаліся і ціха казалі пра страшнога Юду. Заікаюцца яны, трасуцца на родных сучочках, ня ведаючы спакою ад праклятае думкі спрадвечнае: „Хры... Хры... Хры...—калоцяцца яны,—Хрыста пра...пра—даў"...

— І-і на асі-іні задаві-і-іўся,—засьвістаў вецер і спудзіў дробныя лісточкі няшчаснай асіны.

— Го-го-го-ей!...—заздуваў вецер, што ня пускаюць яго дружныя дрэвы ў сваю сямью. Кінуўся ён, як шалёны, на старога дзеда лесавога, на магутны, караністы дуб. Думаў зняцяйку бэхнуць яго на бязконцае, бяздоннае балота, што цягнулася ў непраходны лее, няма ведама куды.

— Ня руш! Не чапай!—толькі і прамовіў магутны дуб. Кіўнуўся на адзін мамэнт да багны і ўзноў выпрастаўся. Абправіў сваё

*) «Патаёмнае было аддрукована ў № 1 часопісі „Варта", якая пачала была выходзіць у Менску ў канцы 1918 году. Пасьля прыходу савецкіх войск увесь яшчэ незакончаны наклад „Варты" быў зьнішчаны ў друкарні. З пазваленьня аўтара, перагледзіўшага і паправіўшага свой твор, друкуем яго нанова. (Рэд.)

каравае суччо. І зноў загадаўся аб старадаўных лепшых часох. калі пад ім маліліся людзі і баранілі яго, аквятчалі яго славай і хвалай і не падпускалі чужынцоў, і шукалі пад ім адказу на свае загадкі, і клятвы пад ім давалі.

— Мінулася, прайшло... Не гарыць сьвяты агонь пада мною... Няма сівых старых дзядоў. Адзін астаўся, адзін, адзін, — агарнула туга векавы дуб, што быў старэйшы за ўсіх ува ўсім лесе.

* * *

Шпарка бегаеш ты, шэры воўк! Дуж ты на ногі, ходак на бягню, цягуч у дарозе. Але дарма... Бо не аббегаць табе, скараход-жывадзёр, за ўвесь ваўчыны век твой усіх абшараў старонкі нашае, не пратаптаць сьцежачак па ўсіх лясох нашых драмучых. Не! Блудзіш і ты ў машкох-купінках нашых!

І ты, буўцян магутнакрылы, бусел-чарнагуз! відзіў ты піраміды фараонаў эгіпецкіх, у шкляной, бліскучай, люстэрнай вадзе Ніла гістарычнага глядзеўся ты, прыгажун. Праз нашага прадзеда, Дуная мнагаводнага, ляцеў ты, даўганогі, і многа старонак з рознымі людзьмі ня нашскай веры і гаворкі і аблічча відзіў ты. Але—дарма! Бо ніколі ня выхадзіць ні табе, ні буўцянятам тваім балот нашай зямелькі. Ніколі не накрасавацца табе бязконцай і неабгляднай удоўжкі і ўшыркі устужкай палёў нашых разнакалёрных, нашых лясоў зялёна-сініх, нашых рэчак ціхаводных, што вербалозам ды краскамі абрасьлі.

Бліскаеш ты, маланка-бліскаўка, скрозь усё неба Божае бліскаеш, аж з краю ў край. Зьверху ў ніз разсякаеш ты, ня ўглядзіць калі, аграмаднае бяздоньне нябеснае. А дарма... Бо ніколі не асьвяціць табе адразу старонкі нашае патаёмнае.

* * *

Аж стогнець сяло, аж ваўкі ў лясу выюць, пудзяцца, дзівяцца, ажно птушкі на-нач цёмную супакоіцца ня можуць—так гуляюць вясельліко людцы добрые.

Адзінага—дрыжонага сына жэніць стары гаспадар. І не шкадуе крэпкай старасьвецкай гарэлкі госьцікам, аўса шаўковага іхным конікам.

Ходзіць ён, белавусы, у кужэльнай сарочцы, дарагім старасьвецкім паясом падпяразаны, ходзіць — несьпяшаецца сярод клуму вясёлага; спахваля, пастарыннаму, ён робіць усё, частуець радню, суседзяў, сяброў, знаёмых сваіх і ўсіх, хто прыехаў, прыйшоў, хто патрапіў толькі на вясельле тое.

Паходзіць, паходзіць і ненарокам зірнець на кут, дзе сядзіць князь малады, сынок яго даражэнькі, з княгіняю сваею сінявокаю. Радуецца сэрца ў старога, што гэткага часу дажыў. Шчырую падзяку пяець Богу душа гаспадарская.

А йдуць скокі за скокамі. Пяюць свашкі песьні вясельные, шчырые, як сама старына. Водзяюць танок маладые радзімічы. Паддае музыка жалю, і адвагі, і бодрасьці, і сумнасьці. Рвецца сэрца чагось. Думы лятуць дзіўные.

Скачуць-гуляюць на вясельлі... Адусюль зыйшліся, зьехаліся людзюхны нашые.

* * *

Гуляюць хлопцы й дзеўкі, дзяды й бабы, а ня рана ўжо, цямнее на дварэ, змрочыць на небе,—цёмная ноч на зямельку йдзець.

Завылі сабакі жаласна за сялібамі. Гаркнуць нівесь у які бок, няма ведама на каго, ды шмоўк!—у пуню з гаркатаньнем хаваюцца ці бягуць туды, дзе больш людзей.

Кудкудакаюць курухны на куросадні, ці ня чуюць што ды нядобрае?

А сонейка нізенька—нізенька. Пагода была добрая, самая добрая, а пачынае нешта псавацца скоранька. От зайдзе — закоціцца краснае сонейка за цёмны лес, за буйны бор і за ціхі гай. Закоціцца ў хмарках—болачках, і будзе на раньні буйны дождж. Ды калі-то яшчэ той дзень заўтрашні, дзень сьвяты, а цяпер во сунецца ночка страшная, ночка таёмная. Зацьвітуць краскі дзіўные, папараць заблішчыць, пабягуць агні, заклятые грошы з зямлі выходзіць пачнуць, той сьвет занеспакоіцца.

— Ходзіць нешта нявіднае па зямле за гумнамі, за людзкімі лазьнямі,—кажаць старая бабуля.—Пахаваюцца лісічкі у пячуры свае, ваўкі ў ямы свае ваўчыные, мядзьведзі—ў логавы, а людзюхны ў хаты асьвячоные.

— Не кажы ты, бабка, не кажы ты, любка: страшна мне, — гаворыць маладуха-свашачка:—і трэба ж нам, трэба дамоў ехаці ў такую ночачку страшную. Дзеткі дробные нас, бацькі, маткі не дачакаліся, а ці напіліся яны там, ці наеліся? Ці нарвалі стракіўкі джгучае, стрыкастае ў вароты на-нач пачапіць? Ці нарылі дзядоўніку ды асіньніку, ці паілі скацінку сваю? Казала я ім ды наказавала... Што ж яны—яшчэ піскляткі неразумные! І грамніцу-сьвечачку ў скрынцы ў ражок паклала, ці знайшлі-то яны, ці Богу памаліліся, забарані іх, Прачыстая. Мала даюць малачка кароўкі мае бурые. Ці мальска і лі нашага боку ёсьць усякіх людзей. Есьць з вачамі чырвонымі, чараўніцкімі.

Так жаліцца, сумуе маладуха. Даволі ўжо і песьні пяяць старасьвецкіе. Не да гульні тут, не да вясельля таго.

Брэшуць, выюць сабакі. А каровы з поля йдуць—вядзець перад чорная. Ды й ня ўсе каровачкі дамоў ідуць: пазасталіся ў лясох на такую ноч. Закацілася чырвонае сонца.—Дж, дж,—жук загудзеў. Назахадзе хмара чорная, нязвычайная павісла, вісіць, падыймаецца.

— Тру-тру—гу-у..—гудзіць па лясох, па махох, па багнах нявыходжаных труба берасьцяная. Кліча, гукаець жывёлін з лесу, — толькі жудзі паддае.

І адразу пачулі ўсе, што па дарозе йдуць, па шляху, з-пад гайка, за сялібамі, ідуць і песьню пяюць нібы старцы якіе, нібы гулякі заядлые, безгаловые. Ліра чутна старэцкая і псальма старадаўная:

А род засмучоны,
Ад Хрыста ён адлучоны..

Усякіе бываюць старцы... Можа то й ня старцы, а старцамі йдуць.

* * *

А па ўсей Амсьціслаўшчыне, Гаршчыне, аж у канец Галыншчыны цягнецца Цёмны Лес.

Імшары непралазные, бярлогі зьвярыные, званы падзёмные, пяяньне сьвятое пад зямлёю у скляпох старадаўнашных, княжэцкіх, пахаваных там ад вока людзкора на векі-вечные.

— „Го-го-го"—гудзіць у ноч глуха-нема Цёмны Лес. Скрыпаюць дрэвы хворые, бахаюць вобзем з гукамі жудкімі. Стогнуць старые дзяды лесавые. Рыскаюць спуджаные зьвяры, уцякаючы ад новага чалавека, ды яшчэ больш смуцяць глухі, смутны лес. Пачаў адбівацца ад лесу новы чалавек. Няпрыходзіць ужо пад дубы тысячачагадовые, многабачыўшые пытацца аб долі-нядолі старонкі роднае.

Стогне лес...

Зарастае багно. Дарма, што пільна так беражэць яго лес да часу астатняга. Адылі яшчэ цурчаць лясовые цурочкі, цуркі і цэлые ручаі халодные з Лоз Савіных, Машкоў Салаўіных, Залужжа, Чартаўшчыны, Гайка і ўсяго Лесу Цёмнага.

Прыгожа там вясною, калі дрэвы ўва ўсё зялёнае ўбіраюцца, ў вопраткі дзіўные апранаюцца, калі аборкі ў лядзе красачкамі пахучымі і кволымі ўсьцілаюцца. Калі лозы сівымі мушыстымі пупышачкамі вабяць дзікіх пчолак з усіх бакоў. Калі паветра цёплае, лёгкае.

— Я-куб! Я-куб!—сумуе голасна зязюлячка. Ды ня проста зязюлька то шэрая: у даўные часы тое здзеілася, што матка ў зязюлю перакінулася і з тых пор чакаець да сябе сына Якуба, што ўкраў яго Паганы Цмок, страшны зьмей, і занёс у няволю, у царства сваё падземнае, падводнае.

— Я тут! Я тут!—чуецца ёй зьнеткуль здалёку другая зязюлька, можа сын Якуб. І яшчэ званчэй—гучней нясецца па ўсяму лесу кукуваньне безнадзейнае. Хораша тады у Цёмным Лесе.

А страшна там у восень цёмную, калі лес стогнець, а ваўкі выюць, скігочыць няма ведама хто. Быццам душаць каго, быццам вядзьмакі хаўтуры спраўляюць па кім. Жуда вялікая на сэрцы падніимаецца.

На Купальле-ж там, над возерам, пад бярозамі стромкімі з высокімі макухамі ды галінамі доўгімі, гібкімі пачынаюць гутацца русалкі белацелые, з косамі чорнымі з вачмі маркотна шалёнымі.

— Гу-у-тя! Гу-та-шы! Гутарэ-элі!—крычаць яны і гукаюць да сябе хлопца прыгожага, мужчыну слабавольнага.

— Мэ, мэ, мэ,—равець там каланіца нячыстая, нібы ўсамдзелішны баран-птушка.

— Сюды, сю-ды!—савою хтосьці крычыць.

* * *

Паціхеньку бяжыць конік вараненькі, вязець пару мужнюю з вясельля таго.

Палягеньку ў цямноце ляпаюць калёсы па карчох, што распаўзьліся вужамі па дарозе ад дрэў. Прахалодай начавою прыемна абвяваець голавы посьля хмелю—віна. У мужа у вушох дрынчыць яшчэ музыка, вясёлые галасы гамоняць у вушох. А маладая матка аб дзетках думала, сціхамірылася пасьля клуму вялікага, заснула паціхеньку ці драмаць пачала...

Цьвітуць ёй краскі ў лузе, паволі калышуцца. Стракочуць стрыкацікі. Ля арэхавых кустоў суніцамі і грыбамі тхне. Вясёла наўкола. І разам мутна. Хата. Штось нядобрае робіцца там. Стары паміраець. Квохчыць старая, сьлёзы, як боб, сыплюцца. Паміраець дзед. І трапіла кананьне пад ночку страшную. Не дарма тое; ой, не дарма.

Ці ня ў гэтай хаце вясельле было? Ці ня тут, гэта, учора танок вадзілі?

Стогнець Цёмны Лес. Паціхеньку пляцецца па дарозе карчавой конік вараненькі. Прахалодай лесавой дзьмухае.

Сумна у хаце.

— Галубок даражэнькі мой,—просіць баба старога свайго, неўгаворлівага—прывязём папа... Спавядайся ты.

— К ліхой гадзіне з папом тваім!—во як ён адказ дае.

— Гаў-у-у,—с трывогаю выець сабака у пуньцы сваёй. Выбяжыць і зямлю драпае. Пад самым вакном. А выець, аж кроў у жылах стыгне.

Ляжыць стары на лаўцы, ад сьвятых абразоў воддаль вернецца. Счарнеў, як смуж. І зубамі скрыгочыць ад мук прадсьмертных. Людзкіе сьлёзы яму адрыгаюцца.

Падойдзе часіна, і зьявяцца нячысьцікі са сваймі відэльцамі па душу бязбожную.

— Ратуйце! Ратуйце!—клікае сьмяротнік,—нясі з хары абразы, кажаць ён бабе сваёй,—ато я памерці не магу.

— Што ты, што ты выдумаў, стары?—застагнала бедная;—гдзе душа твая апынецца?—і пачала паклоны біць.

Як шалёны, як адурэўшы, як неўспадзеўкі падпечаны, ускочыў з лаўкі чараўнік.

Кінуўся, скочыў ён да абразоў і схапіў сярэдні абраз Госпада Саваофа. У вадзін мах ірвануў і падняў над галавою высока...

Зьбялела, як папера, сунулася на зямлю старая, нямеючы ад страхоцьця чартоўскага.

— Гру-ру-ру...—загрукатала ў вушох, быццым каменьне пасыпалася з гары.

Прачнулася маладуха, так трахнула калёсы аб корч.

Яны з лесу выняджалі. Халадком прыемна абвявала. І не магла прыпамятаць маладуха, што ёй снілася, чаго млее душа ей. Парваліся тые ніткі патаёмные, што з Цёмным Лесам была зьвязана, парваліся ці схаваліся.

— І я быў задрамаў,—муж сказаў. І сьніліся тые старцы усё, што на вясельле заходзілі. Прыдаецца ж ліха.. Нібы-то ліра йграла, аж то кола скрыгала: сухаватые грыбы на падмазку учора папаліся.

Млела душа. Раньне. Сьвятлее. У галаве хмель сьціхае. Цёмны Лес—нямы асілак—сьцяною зубчатаю адзаду стаіць.

Максім Гарэцкі.

Багацькаўка.

——оо——

# З індускае паэзіі.

(Тры адрыўкі з «Гітаньялі» Рабіндранат Тагорэ).

АПОШНЯЯ УМОВА.

«Прыдзеце і наймеце мяне!»—так клікаў я йдучы зранку брукаванай дарогай.

І зьявіўся кароль на рыдване сваім з мячом у руцэ.

Узяў мяне за руку і мовіў: «Найму цябе за моц маю».

Ды моц аго ня мела цаны для мяне і прочкі паехала на сваім рыдване.

* * *

У сьпеку паўднёвую дамы стаялі з пазачынянымі дзьвярыма.

Я йшоў крывой вулкай.

Зьявіўся старык з мехам золата....

Падумаў і кажа: «Найму цябе за золата мае».

Важыў адну за аднэй залатые манэты,—ды я адвярнуўся...

* * *

Сутуняла. Сад увесь быў уквечаны.

Выйшла цудоўнае красы дзяўчына і сказала: „Найму цябе за ўсьмешку маю“.

Згасла ўсьмешка яе і расплылася ў сьлёзах, — самотна адыйшла яна ў цемру....

* * *

Сонейка блескам сваім адбівалася на пяску, упорна разьбіваліся хвалі марскіе.

Побач дзіця гуляла з ракаўкамі.

Падняло йно галоўку, як быццам прызнала мяне, і мовіла: „Найму цябе за нішто“.

З таго мамэнту ўмова гэная, зробленая ў часе дзіцячае забавы, ўчыніла мяне вольным чалавекам.

———

КАЛІ НАСТАУ ДЗЕНЬ, прыйшлі да майго дому і сказалі „Жадаемо для сябе адно толькі найменшага куточка“.

Казалі: «Паможамо табе маліцца да Бога твайго, а ты ў пакорнасьці сваей здаволен будзь нашым учасьцем у ласцы Яго»; а пасьля занялі месца ў куточку і сядзелі ціха й патульна.

Ажно ў цемры начной я бачу, як з гоманам і крыкам разьбіваюць яны маю сьвятую арку і як з бязбожнай прагавітасьцю крадуць ахвяры з аўтара Бога майго.

---

ЦІХА, СЭРЦА МАЕ—хай будзе салодкі табе мамэнт разьвітаньня.

Ня сьмерцяй, а давяршэньнем хай будзе ён для цябе.

Хай любоў расплывецца ўспамінам, а боль—песьняй.

Хай лёт у неба скончыцца зляжыўшы скрыдлы над гнязьдзечкам.

Хай апошняе рук тваіх датыканьне будзе лагоднае, як кветка ночы.

Цудоўны канчатак—спыніся на мамэнт і маўчаньнем апошняе слова прамоў!

У нізкім паклоне схіляюся прад табой і падыймаю ўверх мой сьветач, каб асьвятліць табе дарогу.

(Паводле перакладу Я. Каспровіча).

———oo———

# БІБЛІОГРАФІЯ.

## „ДЗЬВЕ ДУШЫ“ М. Гарэцкага.

Першая беларуская повесьць—беларуская ня толькі па мове, але і па зьместу — гэта ў нашай маладой літэратуры праўдзівая і радасная навіна. Яна—знак таго, што беларускае жыцьцё гэтак разьвінулася і ўзбагацела, што дае ўжо даволі матэрыялу для напісаньня повесьці на сучасную тэму, — а разам з тым знак, што нашае пісьменства прыждала мастакоў, каторые патрапяць ня толькі выяўляць у слове паасобные перажываньні, настраеньні і тые ці іншые бакі нашага жыцьця, але і здольны шырокім паглядам абняць усё гэнае жыцьцё—у яго цэльнасьці, даць абраз душы чалавека—сучаснага беларуса, даць аналіз таго, як тая душа сфармавалася, як яна разьвіваецца, чым жыве, чаго жадае... Повесьць — гэта поўнае і многабочнае выяўленьне жыцьця, і дзеля гэтага аўтар яе павінен сам дайсьці высокага духовага разьвіцьця, быць многабочным і ўмець аддзяліць усё няважнае, мімалётнае ў жыцьці ад самае істоты жыцьця.

У новай працы М. Гарэцкага мы і шукалі перш за ўсё тае цэльнасьці жыцьця,—шукалі разьвязкі проблем, якіе перад аўтарам паставіла жыцьцё. Бо жыцьцё, стаўляючы нейкую проблему,

заўсёды дае і разьвязку яе. Ці Гарэцкі яе даў?

Самая завязка повесьці — гэта ўжо ёсьць дужа цікаўная проблема, хоць наагул у літэратуры ня новая. Мамка-сялянка, кормячы ў двары панскае дзіця, хоча даць свайму роднаму сыну „шчасьлівую“ будучыну, замяняе ў калысцы дзяцей, і гэтак сялянскі сын узгадоўваецца на „пана“, пад той час, як паніч расьце на „мужыка“. Якая цікаўная і ўдзячная задача для аўтара: прасачыць, як адаб'ецца на душах абодвых дзяцей перамена іх соцыяльнага палажэньня, якіе плады дадуць асаблівые зачаткі іх духовага укладу на чужой глебі? Аднак, гэту проблему М. Гарэцкі разьвязавае толькі напалавіну: ён аналізуе і абрысоўвае больш выразнымі штрыхамі толькі „мужыка ў панох“, Абдзіраловіча, прапускаючы гэткую добрую магчымасьць разьвінуць псыхолёгію Васіля—„пана ў мужыкох“, і абмежаваецца адно некалькімі мамэнтамі.

«Дзьве душы», аб якіх чытаем у загалоўку кніжкі, — гэта „двудушнасьць“ галоўнага героя повесьці, Абдзіраловіча (паміж іншым, характэрнае прозьвішча яго зусім не характэрызуе ані старога Абдзіраловіча-бацьку, ані яго роднага ні падмененага сына!) Узгадаваны на „пана“ вясковы хлопец ня можа знайсьці цьвёрдага грунту, на каторым мог-бы станучь. Яго прыцягавае да сябе і ўсенародны выбух рэвалюцыі—барацьба за волю тых мас, з якімі ён зьвязаны крывёй, хоць спачатку сам аб тым ня ведае; прыцягаваюць і белагвардзейцы з такімі страшэнна сільнымі, але панурымі і агіднымі тыпамі, як Гарэшка,—і буржуазнае грамадзянства з такімі праўдзівымі красачкамі, як Аля, ды з усімі сваімі хібамі і недахваткамі, лішне добра вядомымі Абдзіраловічу. Але ні на адзін, ні на другі бок ён «самавызначыцца» ня можа: ён так духова расхлябаны, што ня мае ні сілы ні ахвоты зрабіць нейкі выбар. Ня можа яго захапіць да канца й той новы элемэнт дэмакратычнага, народнага руху, які становіць беларускае нацыянальнае адраджэньне,—хаця аўтар прымушае ўвесь час ждаць якогась пераломy ў нацыянальным кірунку (думкі ў дарозі едучы на вёску). Да такога пералому Абдзіраловіч не дайшоў, і, ня гледзячы на ўсю тую завіруху, у якой ён жыве, ня гледзячы на прызывы і крыві, і ўсіх лепшых элемэнтаў, з якімі яму даводзіцца сустракацца, і так мілай яму дзяўчыны (Іра), ён так і астаецца да канца чалавекам калекім, расхлябаным, нікчэмным, ня маючы пад сабой ніякага грунту ні ідэі. Сам аўтар на апошніх страніцах дае яму суровы прысуд вустамі вучня-агітатара Сухавея (у гутарцы з вучыцелькай Ірай): „Што? ён казаў Вам, што мае „дзьве душы“?.. І вы яго бароніце? Дарма! Гэта ня „дзьве душы“, а гэта... гэта... гэта расхрыстанасьць, разлезласьць, мяккацеласьць... нешта для мяне гідкае, сьлізкае. Гэтые вырадкі губяць Бацькаўшчыну, як і ўсякіе ворагі-чужынцы... Эт, дрэнь...“ Нават прызнаньне паміраючай мамкі, што ён—ня панскі сын, а яе роднае дзіця, ня здолела вывясьці героя повесьці з апатычнага, як-быццам вэгетацыйнага стану. І, закрываючы апошнюю страніцу кніжкі, ў ду-

шы родзіцца некая нездаволенасьць: повесьць як-бы ня мае канца, бо завязаны рукой аўтара вузел грамадзянскіх і асабістых абставін, у які ублутаўся яго герой, так і астаўся неразьвязаным... Але разьвязка проблемы прышчэпкі «мужыцкага» дзічка на «панскім» дрэве больш чым ясная: дзічок завяў.

Разьвязка проблемы ёсьць. Але, каб правільна ацаніць повесьць М. Гарэцкага, мы павінны пераканацца, у якой меры гэта разьвязка адпавядае жыцьцёвай праўдзе і вынікае з экспэрымэнту «прышчэпкі», а не з якіх-колечы іншых прычын.

З боку жыцьцёвае праўды, з боку нацыянальнага характару беларуса разьвязка повесьці зусім магчыма і да праўды падобна. Але трэба шчыра сказаць, што абсалютна нішто не дае права ўважаць, што яна—рэзультат тае «прышчэпкі». Абдзіраловіч быў некалі жывым чалавекам: у сваей раньняй моладасьці з прычыны дэмакратычных паглядаў ён пасварыўся з старым Абдзіраловічам і разарваў усялякіе з ім зносіны. Аднак, аб тым пэрыодзі жыцьця Абдзіраловіча мы нічога ад аўтара не даведаліся: мы знаёмімся з героем повесьці акурат у той мамэнт, калі ён, перанесшы ўсе страшэнствы вайны, выходзіць пасьля цяжкое хваробы з бальніцы. Вайна і хвароба — ціж гэта не дастатачные прычыны, каб маладога, поўнага сіл і энэргіі чалавека, здольнага за свае ідэйные пераканаhьні кінуць дом таго, каго лічыў сваім бацькам, — каб гэтые прычыны абярнулі яго ў інваліда, нездатнага да актыўнае працы, няздольнага зрабіць той ці іншы выбар жыцьцёвае дарогі?..

Вось, тут і ёсьць слабое месца повесьці Гарэцкага: псыхолёгічны стан яго героя не вынікае з «прышчэпкі» на чужы грунт і мае тысячу і адну прычыну зусім іншага характару. Сам-жа Абдзіраловіч у апошняй гутарцы з Васілём прызнаецца: «Я за вайну так атупеў, што да ўсякай фальшы прызвычаіўся».

За тое сільны Гарэцкі, калі дае абразы жыцьця краю ў той час, як валіліся фундамэнты старое Расеі. Сільны, калі апісвае вёску і тые настраеньні, што агартаюць душу чалавека, варочаючыся ў родную старану,—калі малюе гэтак яскрава вясковые тыпы—такіе жывые і праўдзівые. Калі ўрэшці падыходзіць да тых сяўцоў беларускае нацыянальнае ідэі, што для яе аддаюць усе свае сілы, сваё шчасьце, сваю волю. І Мікола Канцавы, і горы-горэцкі вучань-агітатар Сухавей, і вучыцелька Іра Саковічанка — гэта зусім жывые, здаровые і затым такіе сьветлые, такіе мілые тыпы, што міма-волі вызываюць шчыры спогад іх пераживаньням, іх гору і працы. Яны—антытэза духоўна калекаму Абдзіраловічу; яны нясуць той штандар, на службу катораму аўтар дарэмна заклікае Абдзіраловіча. Яны — гэта сіла і будучына народу. Яны ні перад чым не устрымаюцца і дойдуць туды, куды рвуцца ўсімі сіламі свае душы! На іх з такой шчырай прыемнасьцю затрымліваецца думка і як-быццам купаецца у чыстай, халоднай крыніцы!..

Даволі цікаўны тып Гаршчка: ён праведзены пасьледавацельна, лёгічна і жыцьцёва праўдзіва.

І гледзючы на тое, як аўтар можа пісаць, мімаволі робіцца крыўдна за Васіля: гэта такі ўдзячны тып—тып чалавека з чыстай і праўдзівай душой, каторы страшэнна востра і балюча адчувае ўвесь фальш і бруд тых, што пад штандарам вызваленьня народу даюць поўны простор сваім дзікім, зьвярыным інстынктам і толькі ганьбяць гэты штандар, плямючы яго бязвінна праліванай крывёй.... Апрача гэнае аднае рысы характару Васіля мы ў кніжцы нічога болш знайсьці аб ім ня можам....

Повесьць Гарэцкага, ня гледзячы на яе недахваткі, цікавая і варта увагі. Цікавая глаўным чынам як адбіцьце беларускага жыцьця ў пачатку бальшавіцкага перавароту. Яна першы раз раскрывае багацьце гэтага жыцьця, раскрывае духовае харавство барцоў за беларускую нацыянальную ідэю, аб каторых шырэйшае грамадзянства йшчэ так страшэнна мала ведае і мо' так-жа мала іх цэніць... І вось за гэта аўтару яе належыцца шчырае дзякуй!

У канцы—колькі слоў аб мове Гарэцкага. Мова яго—бязспорна жывая, багатая і абразовая,—але мамэнтамі яна здаецца цяжкой: як-быццам самы працэс чытаньня адцягавае ўвагу ад зьместу чытанага. Гэная цяжкаватасьць вынікае, трэба думаць, з таго, што Гарэцкі ў сваей апошняй повесьці, так сама як і ў раней-шых працах, ужывае—мо і несьвядома—вельмі многа правінцыяналізмаў—слоў і зваротаў роднае яму магілёўскае гутаркі. Яно добра дый трэба узбагачаваць нашу літэратурную мову няўстанным прытокам жывога народнага слова — ядынае крыніцы нашае мовы. Але тут гожа зрабіць адну ўвагу для ўсіх нашых пісьменнікаў агулам: беларуская літэратурная мова, якая мае за сабой пару дзясяткаў гадоў, зрабіла ўжо значные крокі ўпярод у сваім разьвіцьці, і ўжываньне ў літэратуры правінцыяльнае гутаркі, хоць бы і найчысьцейшае і найхарашэйшае, зусім не пасоўвае далей разьвіцьця літэратурнае мовы. Як нявычарпаная крыніца мовы народнай служаць нашы нязвычайна багатые творы народнае паэзіі, народные казкі і легенды, аповесьці і прыказкі, сабраные ў цэлы рад зборнікаў і ў значнай меры захоўваные народам у памяці і па сягоньняшні дзень. З іх і можна і трэба нашым літэратарам чарпаць абема рукома, але не залішне насьледаваць якуюсь адну гутарку, а ўлаўліваць агульны дух беларускае мовы. Беларускіх гутарак — многа, дый усе яны роўна цэнные; літэратурная-ж мова павінна і можа быць толькі адна, хоць і з індывідуальнымі асобеннасьцямі у кожнага аўтара.

А. Л.

* *
*

**Д-ръ А. Цвикевичъ. Беларусь.** Политическій очеркъ. Переводъ съ бѣлорусскаго. Изданіе Чрезвычайной Дипломатической Миссіи Бѣлорусской Народной Республики. Берлинъ. 1919.

Брашура, надрукованая па расейску ў Бэрліне, мае на мэці пазнаёміць чужынцаў з дзяржаўным і нацыянальным становішчам беларусаў. Галоўные рысы разьвіцьця беларускага руху схопленыя даволі правільна, і аўтар даў тое, што можна было даць на 29 странічках. Дзіўна толькі, нашто

ў Бэрліне яна выпушчана ў сьвет па расейску?!....

* * *

Weissruthenien. Land, Bewohner, Geschichte, Volkswirtschaft, Kultur, Dichtung. Mit 93 Abbildungen und einer Karte. Herausgegeben von Walter Jaeger. Verlag Karl Curtius in Berlin.

Кніжка гэта, ў вельмі густоўнай вокладцы, ўмяшчае 143 страніцы друку і багатые ілюстрацыі. Выдана яна так, як гэта ўмеюць рабіць немцы: тут ёсьць бадай усё, што можа нямецкаму чытачу даць болей-меней яснае паняцьце аб Беларусі. У першым аддзелі — «Das Land» — апісаны наш край і агульны характар яго, яго прыродные асобнасьці, а пры тым дадзены рысункі ўсіх вялікшых мест Беларусі. Так сама ў стацьці „Die Bewohner“ багата беларускіх тыпаў—у нацыянальных опратках, а зьмест яе абнімае і пытаньне аб самабытнасьці беларускае мовы, і характэрыстыку быту і звычаяў беларускіх сялян, і іх занятак, рамёслы і інш. У гістарычным аддзелі — «Die Geschichte» — знаходзім агляд усяе беларускае гісторыі—паходжаньня нашага народу, пэрыоду дзяржаўнае незалежнасьці, пасьля бытаваньня пад панаваньнем Польшчы і Расеі, а ўрэшці—сучаснае дзяржаўнае будаўніцтва. Стацьця П. Крэчэўскага «Die Volkswirtschaft» дае абраз нашага эканамічнага і гаспадарчага жыцьця, хаця карыстаецца—з прычыны нягхваткі новых — даволі старымі даннымі. Аддзел «Die Geistige Kultur» багата ілюстрованы фатаграфіямі беларускае старасьвеччыны (пераважна з музэю с. п. Івана Луцкевіча); стацьця-ж „Zur weissruthenischen Kunst“ д-ра Альбэрта Іппэля тракуе аб беларускай малярскай школе і творах нашага мастацтва ў рожных галінах. Кніжку замыкаюць пробы беларускае новае літэратуры (Тараса Гушчы, Янкі Купалы), перакладзеные на нямецкую мову прафэсарам вроцлаўскага унівэрсытэту д-рам Р. Абіхтам, а такжа ноты і словы нашых народных песьняў, апрацованые па нямецку тым-жа праф. Абхітам і Эльзай Вэцман.

Мы бы вельмі жадалі, каб больш такіх кніжак выходзіла ня толькі ў чужых мовах, але і ў нашай роднай!

* * *

**Падарунак Беларускаму Жаўнеру.** Выданьне Беларускай Вайсковай Камісіі. Менск, 1920.—№ 1.

Судзячы паводле пастаўленага «№ 1», гэта ёсьць пэрыодычная часопісь агітацыйнага характару. На кожнай страніцы — прызывы йсьці да беларускага войска дзеля ўмацаваньня волі Бацькаўшчыны. Тут-жа „Дзесяць прыказаньняў для беларускага жаўнера“, уложаные З. Бядуляй, і доўгі верш з тчыра патрыятычным духам «Слова праўды аб мове і долі беларуса», напісаны А. Зязюляй.

* * *

**А. Ж. — Беларуская Соцыяль-Дэмакратычная Партыя, яе мэты і заданьні.** Популярны выклад праграмы. Менск.

Фактычна, гэта ня столькі выклад праграмы Беларускай Соцыяль-Дэмакратычнай Партыі, скольві спроба падыйсьці да разьвязкі і спопулярызаваць аснаўные пытаньні партыйнае праграмы, якая дагэтуль ня мае аканчацельнае

рэдакцыі з прычыны таго, што агульна-партыйны зьезд у цяперашніх ненормальных варунках адбыцца ня мог.

Брашура напісана жыва, чытаецца лёгка і дае даволі правільны з партыйнага становішча прынцыповы пагляд на праграмные пытаньні. Затое дэталі і конкрэтные формы рэалізацыі соц.-дэм. прынцыпаў—асабліва ў зямельнай справе—павінны вызваць жывейшую дыскусію ў партыйных кругах, для якой даюць добры матэрыял. Ня зусім выразны пагляд аўтара брашуры на тые пытаньні, якіе вынікаюць з перажываных намі выпадкаў сусьветнае вагі.

Брашуру трэба вітаць, як першы крок да конкрэтызацыі праграмных паглядаў партыі.

* * *

У гэты мамэнт выходзяць гэткіе часопісі ў беларускай мове:

**У БАЦЬКАЎШЧЫНЕ:**

«Беларусь», штадзенная газэта, ў Менску. Рэдактар Я. Лёсік, выдавец К. Тарэшчанка.

«Рунь», тыднёвік мастацтва і літэратуры, ў Менску. Рэдактар І. Луцэвіч (Янка Купала), выдаевц Вацлаў Іваноўскі.

«Падарунак Беларускаму Жаўнеру», ў Менску, выд. Белар. Вайсковай Камісіі.

«Саха», месячнік сельскае гаспадаркі, ў Менску. Рэд. выд. А. Уласаў, выд. Бел. Цантр. Саюз. Сельск. Гасп.

«К г у п і с а», народны тыднёвік, ў Вільні.

**У ЧУЖЫНЕ:**

«Часопісь», месячнік, у Коўні. Рэд. Я. Варонка, выдавецтва літоўскага міністэрства беларускіх спраў.

„На чужыне“, месячнік, у Рызе, Рэд. Г. Казячы, выд. рыжскага аддзелу т-ва „Бацькаўшчына“.

„Варта Бацькаўшчыны“, бел. вайсковая газэта на фронці ў Літве.

„Чырвоны Шлях“.—у Маскве.

«Дзяньніца»,—ў Маскве.

**ХУТКА ПАЧНУЦЬ ВЫХАДЗІЦЬ:** народны тыднёвік — у Вільні; коопэратыўная часопісь—у Вільні.

———oo———

# Беларускіе нацыянальные установы.

Поруч з беларускімі урадовымі установамі, каторые працуюць пад кіраўніцтвам Найвышэйшае Рады і Рады Народных Міністраў, па ўсей Беларусі працуе багата мясцовых беларускіх арганізацый і установаў; з важнейшымі спаміж іх мы і пазнаёмім коратка нашых чытатоў.*)

**НАЦЫЯНАЛЬНЫЕ КАМІТЭТЫ.**

У часе польскае окупацыі ў вялікшых цэнтрах Беларусі утварыліся часовые кіраўнічые беларускіе нацыянальные органы — Нацыянальные Камітэты. Гэткіе органы утварыліся ў Вільні, Горадні, Менску і Варшаве.

Найбольш актыўна працуе менскі Часовы Беларускі Нацыянальны Камітэт, на чале каторага стаяць: старшыня — Кузьма Та-

*) Усе данные адносяцца да месяца мая 1920 г.

рэшчанка, намесьнікі яго—Крэпскі і Кудзелька. Да складу К-ту ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацый цантральнага характару з Менску і Меншчыны. За апошніе месяцы Камітэт выявіў энэргічную чыннасьць на грунці арганізацыі правінцыі: ён разаслаў каля 25 інструктароў на адзін толькі Менскі вокруг (паводле польскага адміністрацыйнага падзелу), якіе аб'езьдзілі чуць ня ўсе вёскі. Па павятовых мястох яны арганізоўвалі мясцовые нацыянальные камітэты і павятовые школьные рады. Усюды-ж закладалі культурна-асьветные гурткі, коопэратывы, сельска-гаспадарскіе гурткі і інш. Гэтак цяпер арганізована ўся Меншчына.

**Нацыянальны Камітэт у Вільні:** старшыня Ф. Ярэміч.

**Нацыянальны Камітэт у Горадні:** старшыня Баран.

**Нацыянальны Камітэт у Варшаве:** старшыня Лявон Дубейкоўскі.

### ЦАНТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ РАДА ВІЛЕНШЧЫНЫ І ГОРАДЗЕНШЧЫНЫ.

Выбрана на Беларускім З'езьдзі ў Вільні 9-10 чэрвеня 1919 году, як найвышэйшая беларуская нацыянальная установа для Віленшчыны і Горадзеншчыны. Знаходзіцца ў Вільні.

Старшыня Рады—праф. Браніслаў Тарашкевіч, намесьнік яго—Міхал Кахановіч.

### БЕЛАРУСКАЯ ЦАНТРАЛЬНАЯ ШКОЛЬНАЯ РАДА.

Знаходзіцца ў Менску. Кіруе ўсей беларускай школьнай працай у окупованай палякамі часьці Беларусі, апіраючыся на акружные (Вільня, Горадня) і павятовые школьные рады.

Старшыня—Сымон Рак-Міхайлоўскі, намесьнікі яго — Аркадзь Смоліч і праф. Вацлаў Іваноўскі, члены прэзыдыуму — Родзевіч, Янка Станкевіч (Вільня), Лукаш Дзекуць-Малей (Горадня).

### СТАН ШКОЛЬНАЕ СПРАВЫ.

**Вышэйшая школа** ёсьць адна: Беларускі Пэдагогічны Інстытут у Менску. Рэктар—праф. В. Іваноўскі, дэкан матэматычнага факультэту—Цьвірка-Гадыцкі, гістарычна-філёлёгічнага — праф. Б. Тарашкевіч. Навакол інстытуту гуртуюцца лепшые беларускіе навуковые сілы, як географ Станіслаў Любіч-Маеўскі, інж. Антон Трэпка, Тодар Імшэнік, У. Ігнатоўскі, Данілевіч, Родзевіч і інш.

У канцы лета закончыць сваю работу чацьвёрты курс, даючы першы выпуск студэнтаў.

**Гімназіі:** у Вільні — дырэктар М. Кахановіч, у Менску — Дземідовіч, у Слуцку — дыр. Пятрашкевіч.

**Прагімназіі.** У Менску — 1 мужчынская і 2 жаноцкіе (ўсе на кошт места); у Горадні — 1. Апрача таго беларускіе прагімназіі істнуюць шмат дзе за прыватныя грошы (напр. у Ракаве, Заслаўлі, Кублічах, Дукоры і інш.).

**Пачатковые школы.** У Менску — 64 комплекты мястовых школ, ня лічучы 4 прытулкаў. У менскім павеці—каля 95. У другіх паветах Менскага вокругу горш ішла школьная справа да часу арганізацыі і дапушчэньня працы школьных рад. Агульны лік беларускіх пачатковых школ у Менскім вокрузі—193.

У выдзеленым з Менскага вокругу Баранавіцкім павеці — да 40. школ.

У Віленшчыне і Горадзеншчыне — 17 беларускіх пачатковых

школ (ў пачатку 1918 году было 153). У Вільні—адна прытулковая школа.

**БЕЛАРУСКІ ТЭАТР.**

Найбольш сур'ёзна пастаўлена справа беларускага тэатру ў Менску. Тут працуюць дзьве тэатральные трупы:

1) „Беларускі Нацыянальны Тэатр“ пад кіраўніцтвам тэатральнае камісіі Час. Бел. Нацыянальнага К-ту (кір. Ч. Родзевіч). Разьвіваецца вельмі добра, здабываючы шырокую популярнасьць. Ня гледзячы на тое, што мястовы тэатр на беларускіе спэктаклі дае найгоршые дні: панядзелкі, пятніцы—саля тэатру, калі іграюць беларусы, заўсёды перапоўнена.

2)Трупа „Т-ва Працаўнікоў Мастацтва“ з нязвычайнай популярнасьцю выступае ў Беларускім Народным Доме „Беларуская Хата“.

Глаўную прашкоду ў разьвіцьці тэатральнае работы становіць недапушчэньне тэатральнай цэнзурай (польская літэратка Савітрі!!!) чуць што не паловы пьес, ня гледзячы на тое, што напр. пьеса з работніцкага рэвалюцыйнага руху 1905 году „Каліс“ да пускалася ў Вільні нават ваеннай цэнзурай пры нямецкай окупацыі.

Па другіх цэнтрах і скрозь на правінцыі істнуюць соткі беларускіх тэатральных аматорскіх дружын, якіе ладзяцца пры ўсіх культурна-асьветных гуртках.

**ЭКАНАМІЧНЫЕ АРГАНІЗАЦЫІ.**

„Беларускі Цантральны Сельска-Гаспадарскі Саюз“. Цэнтр —у Менску. Саюзам кіруе урад, прэзыдыум каторага складаецца з ніжэйпісаных асоб: старшыня — К. Тарэшчанка, члены прэзыдыуму—Анатоль Бонч-Асмалоўскі, Кернажыцкі, Трэпка, Шатэрнік. Праца Саюзу вельмі шыбка разьвіваецца дзякуючы перш за ўсё вялікаму ліку спэцыялістаў (25 асоб з вышэйшай сельска-гаспадарскай адукацыяй). Саюз вядзе вялікую фабрыку сельска-гаспадарскіх машын у Бабруйску.

«Цантральны Саюз Коопэратываў Беларусі». Старшыня— беларускі дзеяч Турчыновіч. У Саюзе йдзе барацьба беларускіх нацыянальных элемэнтаў з чужацкімі, якіе былі захапілі кіраўніцтва Саюзам у сваe рукі. На перавыбарах паўнамочнікаў на правінцыі ўсюды пабеда дасталася беларусам, і першы зьезд павінен зусім зьмяніць фізіономію арганізацыі. Да Саюзу належыць каля 350 коопэратываў. Рэйон працы Саюзу — пераважна Меншчына і усходняя Віленшчына. Раней Саюз абнімаў і коопэратывы за бальшавіцкім фронтам.

**БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ КАМІСІЯ.**

На моцы паразуменьня мясцовых беларускіх нацыянальных арганізацый з польскім галоўным камандаваньнем зацьверджана дэкрэтам Начальніка Польскае Дзяржавы, Язэпа Пілсудскага, з 22 кастрычніка 1919 году. Мае на мэці арганізацыю беларускага нацыянальнага войска, падлягаючы найвышэйшаму камандаваньню польскіх войск стратэгічна і тактычна. Глаўнакамандуючы беларускіх войск палк. Канапацкі (беларус). Склад Камісіі: старшыня П. Аляксюк, намесьнікі — А. Прушынскі і А. Аўсянік, члены—М. Рак-Міхайлоўскі, А. Якубэцкі, Кушэль, Мурашка, Канапацкі, Якубоўскі.

Камісія знаходзіцца у Менску.

——oo——

